
СЦЭНА, ЯКАЯ ПАЎСТАЛА ПЕРАД МАІМІ ВАЧАМІ Ў ТОЙ МОМАНТ, БЫЛА МНЕ ДА БОЛЮ ЗНАЁМАЯ.
НІБЫ ЧАСТКА З ГІСТОРЫІ, ЯКАЯ ЎЖО ДАЎНО БЫЛА НАПІСАНА.
МУЖЫК, ГЭТА ЖАХ...
...НЕ ВЕРЫЦЦА, ШТО НЯЧЫСЦІК У ТАКІ МАРОЗ АДПРАВІЎ НАС ШУКАЦЬ ГЭТАГА ДУРНОГА ПАЦУ...
...КААХ!
З ГІСТОРЫІ, ЯКАЯ ЎЖО ДАЎНО БЫЛА РАСКАЗАНА.


САГІ З ІНШАГА ЧАСУ...
...З ІНШАГА, ДАЛЁКАГА СВЕТУ.
П'ЕСА, ЯКАЯ БЫЛА ЗГУЛЯНА АКЦЁРАМІ З РАНЕЙШЫХ СПЕКТАКЛЯЎ.
ЯНЫ Ў ШМАТ ЧЫМ АДРОЗНІВАЛІСЬ АДЗІН АД АДНАГО...
...АЛЕ, У ТОЙ ЖА ЧАС, У ІХ БЫЛО НЯМАЛА АГУЛЬНАГА.
У АБЕДЗЬВУХ ГІСТОРЫЯХ ГАЛАОЎНЫМІ ГЕРОЯМІ БЫЛІ БАЦЬКА...


...І ЧАТЫРЫ СЫНЫ.
НУ... І ЧАГО ВЫ ЧАКАЕЦЕ, ХЛОПЦЫ?
ХІЙЯ!
НУ, ВОСЬ І ЎСЁ, БРАТ!
НЕ СЁННЯ, МАЙКІ!
НЕ ЗАБЫВАЙ ГЛЯДЗЕЦЬ НАЗАД, РАФ!
А ТЫ ГЛЯДЗІ ЎНІЗ, ЛЕА!
ЁЎ!
ГАТОВЫ ЯШЧЭ РАЗ АБЛАЖАЦЦА, ДОНІ?
ХЕ, ЛІЧЫ, ШТО ТЫ АПРА-КІНУЎ МЯНЕ НАПАВАЛ.


ТАК, ЧУВАК, ГЭТА БЫЛО НЕВЕРАГОДНА! ТЫ АДБІЎ УСЮ ЭМАЛЬ З МАЁЙ ПАТЭЛЬНІ.
САПРАЎДЫ, РАФ – ТЫ ХУТКА СХАПЛІВАЕШ. УСЯГО ЗА АДЗІН МЕСЯЦ ТРЭНІРОВАК ТЫ НАВУЧЫЎСЯ ШМАТ ЧАМУ.
ДЗЯКУЙ, ХЛОПЦЫ.
ДЗІЎНАЕ ПАЧУЦЦЁ... НІБЫ МАЁ ЦЕЛА САМО ПАДКАЗВАЕ МНЕ, ЯК РУХАЦЦА.
ММ... НАПЭЎНА, ГЭТА ГУЧЫЦЬ, ЯК ПОЎНАЕ ТРЫЗНЕННЕ?
ЗУСІМ НЕ, КАЛІ ЎЛІЧЫЦЬ, ШТО ТОЕ Ж САМАЕ БЫЛО І З НАМІ. ТАКОЕ ПАЧУЦЦЁ, ШТО МЫ ПРОСТА ЎДАСКАНАЛЬВАЕМ ТОЕ, ШТО ЎЖО ДАЎНО ЎМЕЛІ.
ДЫ Й МАЙСТАР СПЛІНТЭР КЛАПАЦІЦЦА АБ ТЫМ, КАБ МЫ "ЎДАСКАНАЛЬВАЛІ" ГЭТА КОЖНЫ ДЗЕНЬ, АД СВІТАННЯ ДА ЗМЯРКАННЯ.
ТЫ ПЕРАБОЛЬШВАЕШ, МАЙКІ. ТЫ СТОЛЬКІ Ж ЧАСУ НАДАЕШ НАПХАННЮ СВАЙГО СТРАЎНІКА ДЫ ЧЫТАННЮ КОМІКСАЎ, КОЛЬКІ І ТРЭНІРОЎКАМ. ТАМУ ТВАЕ СКАРГІ ТУТ НЕ ЗУСІМ ДА МЕСТА.
СЛУХАЙЦЕ, Я НІЧОГА НЕ МЕЮ СУПРАЦЬ ТРЭНІРОВАК, АЛЕ, ЯК ВЫ ЛІЧЫЦЕ, КАЛІ МАЙСТАР СПЛІНТЭР УЖО ДАСІ МНЕ ПАЧАЦЬ ЗАЙМАЦЦА СУР'ЁЗНЫМІ СПРАВАМІ, ЯК ТОЕ, ЧЫМ ЗАЙМАЕЦЕСЯ ВЫ, ХЛОПЦЫ?
НЯ ВЕДАЮ. НАПЭЎНА, ЁН ПРОСТА ХОЧА БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫМ, ШТО ТЫ ГАТОВЫ, БРАЦЕЦ.
НЕ КЛАПАЦІСЯ НАКОНТ ГЭТАГА. МЫ КАЛЯ ЧАТЫРОХ МЕСЯЦАЎ ЗМАГАЛІСЯ ГОЛЫМІ РУКАМІ. А ПОТЫМ, У АДЗІН ЦУДОЎНЫ ДЗЕНЬ, ЛЯСЬ! І МАЙСТАР РАЗДАЎ НАМ УСІМ ЗБРОЮ.
ДАРЭЧЫ, НАКОНТ БАЦЬКІ...


"...ЧАМУ ЁН ДАГЭТУЛЬ НЕ ВЯРНУЎСЯ?"
ПРЫСЛУГАЧЫ МАЙГО ВОРАГА ШУКАЮЦЬ МЯНЕ.
ЧУВАК, ГЭТА АДСТОЙ.
І НЕ КАЖЫ. Я ЎЖО НОГ НЕ АДЧУВАЮ.
БЛУКАЮЧЫ ПА ЦЁМНЫМ АЛЕЯМ І БРУДНЫМ ВУЛІЦАМ, ЯНЫ СПРАБУЮЦЬ ЗНАЙСЦІ МЯНЕ, ЯК ЗАГАДАЎ ІХ ГАСПАДАР, СТАРЫ НЯЧЫСЦІК.
CLANK
АТРЫМЛІВАЕЦЦА ГЭТАКАЯ ГУЛЬНЯ Ў КОШКІ-МЫШКІ, У ЛІТАРАЛЬНЫМ СЭНСЕ.
ЧУЎ ГЭТА, МУЖЫК?
АГА, ПАЙШЛІ ПРАВЕРЫМ.
ДАКЛАДНЕЙ, ГУЛЬНЯ Ў КОШКІ-ПАЦУЧКІ.
АДНАК ПАЦУКА НЕ ПАЙМАЮЦЬ. ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, НЕ СЁННЯ.
НА ГЭТЫ РАЗ УСЁ БУДЗЕ ПА-ІНШАМУ.


ЯГО КЛІКАЛІ ХАМАТА ЁШЫ.
ЁН ЖЫЎ У ФЕАДАЛЬНАЯ ЯПОНІІ, І, ЯК І Я, НАКІРОЎВАЎСЯ ДАДОМУ. ЁН ТАКСАМА НЁС СВАІМ СЫНАМ ПРАВІЗІЮ І ІНШЫЯ ПАДАРУНКІ.
І ЗА ІМ ТАКСАМА ПАЛЯВАЛІ.
У НАС НЕ АТРЫМАЛАСЯ ЗНАЙСЦІ ХАМАТА ЁШЫ, ЛІДАР.
ПРАЦЯГВАЙЦЕ ПОШУКІ! МАЙСТАР НЕ ПРАСЦІЦЬ НАМ НЯЎДАЧЫ.
ГЭТЫЯ НАЙМІТЫ СЛУЖЫЛІ ЗАКЛЯТАМУ ВОРАГУ ЁШЫ – МАЙСТРУ НІНЗЯ АРОКУ САКІ, КІРАЎНІКУ НЕБЯСПЕЧНАГА КЛАНА ФУТ.
ГЭЦЬ!
АЛЕ ТАК БЫЛО НЕ ЗАЎСЁДЫ.



КАЛІСЬЦІ, ЁШЫ ДЫ САКІ БЫЛІ БРАТАМІ ПА КЛАНУ – ПАКУЛЬ САКІ НЕ ВЫРАШЫЎ ПАВЕСЦІ КЛАН ПА ГРЭШНАМУ ШЛЯХУ. ШЛЯХУ СКВАПНАСЦІ, ГАНЬБЫ, ЖОРСТКАСЦІ І РАЗБУРЭННЯЎ.
...І НІХТО Ў ВЁСЦЫ ЗА МЕЖАМІ ЗАМКА НЕ ПАВІНЕН ЗАСТАЦЦА ЖЫВЫМ.
ШТО ТЫ НЯСЕШ, АРОКУ САКІ? НАША МІСІЯ – ЗНІШЧЫЦЬ ТОЛЬКІ НАМЕСНІКА ЗАМКА, І НІКОГА БОЛЬШ.
КЛАН ФУТ ПАВІНЕН ПАКАЗАЦЬ СЯБЕ РАЗБУРАЮЧАЙ СІЛАЙ, ЯКУЮ ЎСЕ БУДУЦЬ ПАВАЖАЦЬ І БАЯЦЦА, ХАМАТА ЁШЫ. І ЗАБОЙСТВА ЎСІХ ЖЫХАРОЎ ВЁСКІ ЯК РАЗ ДАНЯСЕ ГЭТАЕ ПАСЛАННЕ ДА НАРОДА. ТАК ЯНО СТАНЕ ЗНАЧНА ГРАМЧЭЙШЫМ... І ЗРАЗУМЕЛЫМ
АДЗІНАЕ, ШТО МНЕ ЗРАЗУМЕЛА, ГЭТА ТОЕ, ШТО ТЫ БЕСЦЫРЫМОННА ГАТОЎ ЗАБІЦЬ КУЧУ НЯВІННЫХ ЛЮДЗЕЙ, САКІ! ГЭТЫМ ТЫ ЗГАНЬБІЎ СЯБЕ І АПАГАНІЎ ГОНАР КЛАНА ФУТ.
Я НЕ БУДУ ПРЫМАЦЬ УДЗЕЛ У ГЭТЫМ ЖАХЕ.
РАЗЗЛАВАЎШЫСЯ, САКІ АБВІНАВАЦІЎ ЁШЫ Ў ЗДРАДЗЕ – САМАЙ СТРАШЭННАЙ ПРАВІНЕ, ЯКАЯ КАРАЕЦЦА СМЕРЦЮ.


ЁШЫ СТАЎ ЧУЖЫНЦАМ ДЛЯ СВАЙГО КЛАНА...
...АЛЕ ЁН НЕ БЫЎ САМОТНЫ.
У ЁШЫ БЫЛІ ЖАНА ТЭНГ ШЭН І ЧАТЫРЫ МАЛЕНЬКІХ СЫНЫ.
СПАКОЙНЫХ СНОЎ, МАЕ ПРЫГАЖУНЫ.
АДНАК САКІ І ІХ АБ'ЯВІЎ ЗДРАДНІКАМІ.
КАЛІ ЛАСКА, НЕ! ТОЛЬКІ НЕ ДЗЕЦІ! КАЛІ...
ТАМУ ЯНЫ ТАКСАМА ЗАСЛУЖЫЛІ ПАКАРАННЕ.
...ЛАЭЭЭЭ!
СМЕРЦЬ.


А ЗАРАЗ – ДЗЕЦІ
ДЭМАНЫ!?
ШТО ВЫ НАТВАРЫЛІ?!


ЗДРАДНІК! ЗАБ'ЕМ ЯГО!
КХЕЎЎ!
ХРАК!
ШЭН... НЕ...
КАХАНЫ...
...ГЭТА ТЫ?


ШЭН! ТЫ ЯШЧЭ ЖЫВА!
ГЭТА НЕНАДОЎГА... КХЕ... ЛЮБОЎ МАЯ.
НЕ КАЖЫ ТАК. МЫ МО...
НЕ, УЖО... ЗАНАДТА ПОЗНА. КАЛІ ЛАСКА, ПАСЛУХАЙ ЁШЫ.
Я БАЧУ П... ПРАГУ ПОМСТЫ Ў ТВАІХ... ВАЧАХ, КАХАНЫ. КАЛІ ЛАСКА,...ДЗЕЛЯ МЯНЕ... ПАДУМАЙ АБ НАШЫХ ДЗЕЦЯХ.
АЛЕ ШЭН... САКІ ПАВІНЕН ПАПЛАЦІЦЦА ЗА...
НЕ, КАХАНЫ! Я... Я НЕ ХОЧУ ГЭТАГА.
ЗАБЯРЫ НАШЫХ СЫНОЎ... НАШЫХ ХЛОПЧЫКАЎ... І БЯГІ. ДАЛЕЙ АДСЮЛЬ... СХАВАЙ ІХ, НЯХАЙ ЯНЫ БУДУЦЬ У БЯСПЕЦЫ.
...ДЗЕЛЯ МЯНЕ.
ЛЮБОЎ МАЯ...
...НЕ.



СЫНЫ МАЕ, АРОКУ САКІ ЗАСЛУЖЫЎ СМЕРЦІ ЗА СВАЕ ГНЮСНЫЯ ДЗЕІ – АЛЕ НЕ СЁННЯ.
СЁННЯ МЫ З ВАМІ ПОЙДЗЕМ У БЯСПЕЧНАЕ МЕСЦА, ЯК ПАЖАДАЛА ВАША МАЦІ.
ГЭТА МЫ ЗРОБІМ... СЁННЯ.
АДНАК Я КЛЯНУСЯ...
...ШТО МЫ ВЕРНЕМСЯ ЗА САКІ.
БЫВАЙ, ТЭНГ ШЭН.
ТАКІМ ЧЫНАМ, СА СВАІМІ СЫНАМІ ДЫ РАЗБІТЫМ СЭРЦАМ, ХАМАТА ЁШЫ ПАКІНУЎ БЯЗДЫХАНАЕ ЦЕЛА СВАЕЙ ЖАНЫ І ЗБЕГ У ГОРЫ.
НА НЕЙКІ ЧАС, ЯНЫ БЫЛІ Ў БЯСПЕЦЫ. І ЖЫЦЦЁ...


...СТАЛА ЛЕПШ.
ТЫ ПАВІНЕН ВУЧЫЦЦА ЛЕПШ, КЕЙСІ – ТЫ ГЭТА ВЕДАЕШ?
Я ВЕДАЮ, ТРЭНЕР БОЎМАН.
ХАКЕЙНАЯ ПЛЯЦОЎКА "НЬЮ-ЁРК ТЭКА". НАШ ЧАС.
Я АБ ТЫМ, ШТО Ў ЦЯБЕ БЫЛІ ДАВОЛІ НЯДРЭННЫЯ АДЗНАКІ, ДЛЯ ТАГО, КАБ ГУЛЯЦЬ... КОЛЬКІ? ТРЫ СЯМЕСТРА ЗАПАР, ТАК? ТЫ З УСІМ СПРАЎЛЯЎСЯ.
ВЕДАЮ.
А ЗАРАЗ ПРАЙШОЎ УЖО ЦЭЛЫ СЕМЕСТР З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК ТЫ НА ВЫПРАБАВАЛЬНЫМ ТЭРМІНЕ, І У ЦЯБЕ ЗАСТАЛОСЯ ЎСЯГО ПАЎСЯМЕСТРА, КАБ ВЫПРАВІЦЬ АДЗНАКІ, ІНАЧАЙ МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ВЫКЛЮЧЫЦЬ ЦЯБЕ З КАМАНДЫ. РАЗУМЕЕШ?
АГА.
ШТО АДБЫВАЕЦЦА, СЫНА? ЧАМУ ПАЧАЛІСЯ РАПТОЎНЫЯ ПРАБЛЕМЫ Ў ШКОЛЕ? ТЫ БОЛЬШ НЯ ХОЧАШ ГУЛЯЦЬ?
НЕ, Я ХАЧУ ГУЛЯЦЬ, ТРЭНЕР. ГЭТА ПРОСТА, Я НЯ ВЕДАЮ...
...ПРОСТА ЧЫТАЦЬ КНІГІ Ў МЯНЕ АТРЫМЛІВАЕЦЦА НЕ ТАК ДОБРА, ЯК КАОЎЗАЦЦА НА КАНЬКАХ І ЛУПЦАВАЦЬ ПА ЧУЖЫХ ЧАРАПУШКАМ, РАЗУМЕЕЦЕ?
СПРАВА Ў ТЫМ, ШТО НЕАБХОДНА СУМЯШЧАЦЬ І ТОЕ, І ІНШАЕ, КЕЙСІ – КАЛІ ТЫ ХОЧАШ УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У СПАБОРНІЦТВАХ КАЛЕДЖУ.
НАЙМІ САБЕ КАГОСЬЦІ У ДАПАМОГУ, ДЖОНС – РЭПЕТЫТАРА АБО НЕШТА ТАКОЕ – І ВЫПРАЎЛЯЙ СВАЕ АДЗНАКІ – АБО, ШКАДУЙ, АЛЕ ТЫ БОЛЬШ НЕ ЗМОЖАШ ГРАЦЬ ЗА "НЬЮ-ЁРК ТЭК".
Я... ПАСПРАБУЮ, ТРЭНЕР.
ДОБРА. ПАРАЗМАЎЛЯЙ З СЯБРАМІ, МОЖА, ЯНЫ НАКІРУЮЦЬ ЦЯБЕ НА ШЛЯХ ПРАЎДЗІВЫ.
ТАК, СЯБРЯ.
...КАНЕШНЕ.




* "КАРПУЛ" – ДАМОВА МІЖ АЎТАЎЛАДАЛЬНІКАМІ (СЯБРАМІ АБО СУСЕДЗЯМІ) ПА ЧАРЗЕ КАРЫСТАЦЦА СВАЕ АЎТАМАБІЛІ ДЛЯ АГУЛЬНЫХ ПАТРЭБАЎ.


"...ЗАНАДТА ХОЛАДНА, КАБ АБ НЕЧЫМ ДУМАЦЬ".
З-ЗА ЖУДАСНАГА ХОЛАДУ ПАСЛУГАЧЫ НЯЧЫСЦІКА СТАНОВЯЦЦА ПАОЛЬНЫМІ, ПАЧЫНАЮЦЬ ДРЭННА ЦЯМІЦЬ...
...ТАМУ З ІМІ ЛЁГКА ЗЛАДЗІЦЬ.
KRAK
І ЯК РАЗ ЯК У ТЫМ АПАВЯДАННІ З МІНУЛАГА...
...ПАДАННІ АБ ХАМАТА ЁШЫ.
...Я ВЕРНУЎСЯ ДАДОМУ.
NYC


...ДА МАІХ ЧАТЫРОХ САНОЎ.
БРАТЫ, ГЛЯДЗІЦЕ! БАЦЬКА ВЯРНУЎСЯ!
ЁШЫ НАСАМРЭЧ ВЯРНУЎСЯ, І ПРЫНЕС СВАІМ СЫНАМ ЕЖУ ДЯ ЦУКЕРКІ, РЭДКІ ЛАСУНАК У ТЫЯ ЧАСЫ.
ДЗЯКУЙ, БАЦЬКА. АЛЕ МЫ ПАКУЛЬ НЕ ЗАСЛУЖЫЛІ. НАША ТРЭНІРОЎКА ЯШЧЭ НЕ СКОНЧЫЛАСЯ.
САЧЫ ЗА САБОЙ – ГЭТА ПРОСТА АБ'ЯДЗЕННЕ!
ГЛЯДЗІ НЕ ЗДУШЫСЯ, БРАЦІШКА.
ЯСЦЕ НА ЗДАРОЎЕ, СЫНЫ. ГЭТА ЛАСУНАК ДЛЯ ВАС.
НЕ, ХАМАТА ЁШЫ...
...ВОСЬ ЛАСУНАК ДЛЯ ВАС.
ГЭТА БЫЎ АПОШНІ ШЧАСЛІВЫ МОМАНТ, ЯКІ ЁШЫ ЗМОГ ПАДЗЯЛІЦЬ СА СВАІМІ СЫНАМІ.
АРОКУ САКІ.
ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, ЁН ТАК ЛІЧЫЎ.


КАЛІ АРОКУ САКІ КАЗАЎ СВАЕ АПОШНІЯ СЛОВЫ, ХАМАТА ЁШЫ І ЯГО СЫНЫ МАЛІЛІСЯ.
УГЛЕДЗЬ, ХАМАТА ЁШЫ. ПАГЛЯДЗІ НА СЫНОЎ, ЯКІХ ТЫ ЗАЦЯГНУЎ У СВАЮ ЗДРАДУ.
ЁН МАЛІЎСЯ БУДЗЕ... ЗУСІМ ВЫШЭЙШЫМ СІЛАМ У СУСВЕЦЕ... АБ СПРАВЯДЛІВАСЦІ.
ПАГЛЯДЗІ НА ТВАРЫ ТЫХ, ХТО СЁННЯ ПАМРЭ РАЗАМ З ТАБОЮ. ПАМРЭ АД РУКІ ТВАЙГО ЎЛАСНАГА КЛАНА, ЯКІ ТЫ ТАК ГНЮСНА ЗДРАДЗІЎ.
ЁН МАЛІЎСЯ АБ ТЫМ, КАБ ЁН І ЯГО СЫНЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ СУСТРЭЛІСЯ ІЗНОЎ...
СЫНЫ МАЕ...
...І АБ ТЫМ, КАБ ЁН ЗМОГ ЯШЧЭ РАЗ СУСТРЭЦЦА З АРОКУ САКІ – САМ НА САМ.
...ПРАБАЧЦЕ МЯНЕ.


СЯЧЫЦЕ!
SCHWIP
SCHWIP
SCHWIP
SCHWIP
А ЗАРАЗ, ЗДРАДНІК, ПРЫЙШЛА ТВАЯ ЧАРГА.
АРОКУ САКІ, АМАЛЬ ТРЫ ГАДЫ Я ПАЗБЯГАЎ СУСТРЭЧЫ З ТАБОЮ, КАБ УШАНАВАЦЬ АПОШНЯЕ ЖАДАННЕ МАЁШ ЖАНЫ І ЗАХАВАЦЬ ЖЫЦЦІ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ.
АЛЕ ЗАРАЗ МАЕ СЫНЫ ЗМЕРЛІ, І ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ШТО Я БОЛЬШ НЕ ПАВІНЕН ПАЗБЯГАЦЬ ЦЯБЕ.
ВЕДАЙ ТОЛЬКІ...
...КАЛІ МЫ СУСТРЭНЕМСЯ ЗНОЎ, Я ЗНІШЧУ ЦЯБЕ.
ДУРАНЬ. МЫ БОЛЬШ НІКОЛІ НЕ СУСТРЭНЕМСЯ.
SCHWIP


...АЛЕ ІХ ГІСТОРЫЯ НА ГЭТЫМ НЕ СКОНЧЫЛАСЯ. АДНОЙЧЫ Ў ІХ З'ЯВІЛАСЯ НОВАЯ НАДЗЕЯ.
РАБЯТЫ, ГЛЯДЗІЦЕ – МАЙСТАР СПЛІНТЭР ВЯРНУЎСЯ!
Я ПРЫНЕС ВАМ ГАСЦІНЦАЎ, СЫНЫ. ПАДЫЙДЗІЦЕ ДА МЯНЕ.
НОВЫЯ МАРЫ.
ТАК ЯК ВЫ ЎСЕ СТАРАНА ШУКАЛІ РАФАЭЛЯ, КОЖНЫ З ВАС НОСІЎ ПАВЯЗКУ З ЯГО ЛЮБЫМ КОЛЕРАМ, КОЛЕРАМ, ЯКІ НАГАДВАЎ ВАМ АБ ТЫМ, КАГО МЫ ШУКАЛІ.
ЗАРАЗ, КАЛІ ЁН ВЯРНУЎСЯ ДА НАС, ПРЫЙШОЎ ЧАС КОЖНАМУ З ВАС ПАКАЗАЦЬ СВАЮ ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ. ХОЦЬ МЫ З ВАМІ І КЛАН, КОЖНЫ З НАС МАЕ СВАЕ АСАБЛІВАСЦІ, І НЕ ВАРТА ГЭТА ЗАБЫВАЦЬ.
ПРАШУ ВАС, ПРЫМІЦЕ ГЭТЫЯ ДАРУНКІ ЯК ПАДЗЯКУ БАЦЬКІ, ЯКІ ГАНАРЫЦЦА ВАМІ.
НОВЫЯ АДНОСІНЫ ДА ЖЫЦЦЯ І ДА ЎСІХ ВЕРАГОДНЫХ МАГЧЫМАСЦЯЎ.
МІКЕЛЯНЖЭЛА.
СТРОМКА!
ДАНАТЭЛА.
ВОСЬ ГЭТА ДЗЯКУЙ!
ДЫ ЛЕАНАРДА.
ДЗЯКУЙ, НАСТАЎНІК.


НУ, ЧАГО ЧАКАЕЦЕ – ПРЫМЕРЦЕ Ж ІХ, СЫНЫ МАЕ!
МЫ САПРАЎДЫ ГЕРОІ!
АХ ДА, РАФАЭЛЬ. ТАБЕ Я ПРЫНЕС ІНШЫ ГАСЦІНЕЦ.
ТВАЕ БАЙЦОЎСКІЯ НАВЫКІ ПЕРАСЯГНУЛІ ЎСЕ МАЕ ЧАКАННІ, ЗА ВЕЛЬМІ КАРОТКІ ТЭРМІН ТЫ НАВУЧЫЎСЯ ШМАТ ЧАМУ, ТАМУ ТЫ, БЕЗУМОЎНА, ЗАСЛУЖЫЎ...
...ГЭТА.
УАЎ... ОХ ТЫ.
АЛЕ ЗАПОМНІ, ЦЯПЕР МЫ ІДЗЕМ ПА МІРНАМУ ШЛЯХУ, І ПАВІННЫ КАРЫСТАЦЦА ГВАЛТАМ ТОЛЬКІ Ў АСАБІСТЫХ МОМАНТАХ. Я НАВУЧЫЎСЯ ГЭТАМУ ДЗЯКУЮЧЫ ШМАТГАДОВАМУ ДОСЬВЕДУ.
ВЫКАРЫСТОЎВАЙ ГЭТУЮ ЗБРОЮ З ДОБРЫМІ НАМЕРАМІ, СЫН МОЙ. ЗАЎСЁДЫ.
Я... Я БУДУ. АБЯЦАЮ.


РАФ, БРАЦЕЦ! АФІГЕННА!
ТАК... ДЗЯКУЙ, МАЙКІ.
МАЙСТАР СПЛІНТЭР, ВАЛІКІ ДЗЯКУЙ ЗА ЎСІ ГЭТЫЯ ПАДАРУНКІ – ЯНЫ ВЫДАТНЫЯ. АЛЕ, РАЗУМЕЕЦЕ...
...МЫ НІЧОГА НЕ ПАДРЫХТАВАЛІ ДЛЯ ВАС.
Я БЫЎ РАЗЛУЧАНЫ СА СВІЙМІ СЫНАМІ, АЛЕ ЗАРАЗ МЫ ІЗНОЎ РАЗАМ.
УЗ'ЯДНАННЕ СА СВАЁЙ СЯМ'ЁЮ...
Я НУДЖУСЯ, МАЦІ.
JONES
МАМ, Я ТАК РАДАЯ ЦЯБЕ БАЧЫЦЬ.
...НЯЎЖО ГЭТА НЕ ЛЕПШЫ ПАДАРУНАК ДЛЯ ЎСІХ?


БАЦЬКА, Я ХАЦЕЎ НЕШТА ЗАПЫТАЦЬ. АДКУЛЬ ВЫ ДАВЕДАЛІСЯ, ШТО ЛЮБЫ КОЛЕР РАФАЭЛЯ – ЧЫРВОНЫ?
ДОБРАЕ ПЫТАННЕ, ДАНАТЭЛА. АДЗІН З ШМАТЛІКІХ ПЫТАННЯЎ, ЯКІЯ Ў ВАС ДА МЯНЕ НАЗАПАСІЛІСЯ.
Я ШМАТ ЧАГО ТРЫМАЎ У ТАЙНЕ АД ВАС – АЛЕ ЗАРАЗ НАДЫШОЎ ЧАС УСЁ РАСКАЗАЦЬ.
СЯДАЙЦЕ, СЫНЫ МАЕ...
...І Я РАСКАЖУ ВАМ НАЙЦІКАВУЮ ГІСТОРЫЮ.


...ДЫ Й ШТО ЯНЫ ЗАДУМВАЮЦЬ, ПА-ВАШАМУ?
НУ, У ТАКІМ ПРЫКІДЗЕ, ДЫ ЯШЧЭ І ЎЗБРОЕНЫЯ ДА ЗУБОЎ... НЯ ТРЭБА БЫЦЬ ГЕНІЯМ, КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО НІЧОГА ДОБРАГА.
ГЫ, ТОЛЬКІ ГЕНІЙ МАЕ ЗВЫЧКУ РЭГУЛЯРНА НАГАДВАЦЬ АТАЧАЛЬНЫМ, ШТО ЁН ГЕНІЙ.
ЗНОЎ...
ТЫ ШТОСЬЦІ СКАЗАЎ, ЛЕА?
НІЧОГА, ГЕНІЙ.
ДАВАЙЦЕ, ХЛОПЦЫ...
ЗІРНЁМ НА ГЭТЫХ БАНДЫТАЎ БЛІЖЭЙ...
ГЭЙ, ГЭТА ЗУСІМ НЕ ГЭТАК.
У МЯНЕ НЯМА ЗВЫЧКІ ЎВЕСЬ ЧАС МУДРАГЕЛІЦЬ.
НЯЎЖО? ТАДЫ ЯК ТЫ ГЭТА ЗАВАЕШ?
ЗАВУ ШТО?
ГЭЙ, МОЗГ І НАТС – МЕНЬШ РАЗМОЎ...
...БОЛЬШ ДЗЕЯННЯ...
АГА...
...САПРАЎ-ДЫ.


ОГО, А ЯНЫ НЕВЕРАГОДНА ХУТКІЯ.
САПРАЎДЫ...
ГЭТЫЯ ХЛОПЦЫ ШТО, ПРЫНЯЛІ ПОРЦЫЮ НІНЗЯ-ВІТАМІНАЎ? ЯНЫ СКАЧУЦЬ, БЫЦЦАМ ЗАЙЦЫ.
А ПАМЯТАЕШ КАЗКУ? ЗДАЕЦЦА, ТАМ ЧАРАПАХА АПЯРЭДЗІЛА ЗАЙЦА.
ТАК, АЛЕ ТАЯ ЧАРАПАХА НЕ БАВІЛА ЎВЕСЬ ВОЛЬНЫ ЧАС, ПАЯДАЮЧЫ ПІЦУ І ГУЛЯЮЧЫ Ў ВІДЭАГУЛЬНІ.
ЯК КАЖА МАЙСТАР СПЛІНТЭР, БЕЗ ТРЭНІРОВАК...
ВЕДАЮ, ВЕДАЮ, БРАТОК – БЕЗ ТРЭНІРОВАК НІКУДЫ.
ГЭЙ, ХЛОПЦЫ, СПЫНІЦІСЯ!
ЯНЫ БЯГУЦЬ ПРАМА Ў ТОЙ ПРАВУЛАК!
ТАК ВОСЬ У ЧЫМ СПРАВА – ЯНЫ НЕКАГА ПЕРАСЛЕДУЮЦЬ!
ЛІХА ЯГО БЯРЭ...


"...СПАЧАТКУ ЗАЙЦЫ, А ЗАРАЗ ЯШЧЭ І ЧАЛАВЕР-ПІНБОЛ!"
ТОЕ, ЯК ЁН РУХАЕЦЦА... ВЕЛЬМІ ПАДОБНА НА ПАРКУР.
ПРА-ШТО?
ПАРКУР. ГЭТА ПА-ФРАНЦУЗСКУ. РУХ, ЯКІ ДАЗВАЛЯЕ ПЕРАСОЎВАЦЦА ПА ВУЛІЦАХ, ХУТКА І СПРЫТНА ПЕРА-АДОЛЬВАЮЧЫ ЎСЕ ПЕРАШКОДЫ.
МЕНАВІТА.
ВЫДАТНА... ВЫ ЎДВАІХ, НАРЭШЦЕ, ХОЦЬ У НЕЧЫМ ЗГОДНЫ. АЛЕ ЧАМУ ГЭТЫ ПАР... ПАРК... ФРАНЦУЗ-ГІМНАСТ БЯЖЫЦЬ АД ГЭТЫХ НІНЗЯ?
ДОБРАЕ ПЫТАННЕ, РАФ.
МЕНАВІТА.
ВОСЬ ХТО Б МОГ ПАДУМАЦЬ, ШТО КАЛІ БАТАНІК-НІНЗЯ І МАЙСТАР ПАДЛІЗНІК СПЫНЯЦЬ ЛАЯНКУ, ЯНЫ БУДУЦЬ РАЗДРАЖНЯЛЬНЫЯ ЯШЧЭ БОЛЕЙ.
МЕНАВІТА.


ЦІШЭЙ, ХЛОПЦЫ... СЛУХАЙЦЕ.
ПАДЫХО-ДЗЬЦЕ.
ПАЧНЕМ!
АДЗІНАЕ, ШТО Я ВЕДАЮ ПА ФРАНЗУЦЗКІ, ГЭТА БУЛЬБА ФРЫ, АЛЕ МНЕ І ТАК ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ТУТ НАСПЯВАЕ НЯРОЎНАЯ СУТЫЧКА.
НЕ, РАФ... СПАКАЙНЕЙ. МАЙСТАР СПЛІНТЭР ПРАСІЎ НАС НЕ ВЫЛАЗІЦЬ БЕЗ НЕАБХОДНАСЦІ.
СПЛІНТЭРА ТУТ НЯМА.
ЗАТОЕ Я ТУТ, І Я КАЖУ – ТОЛЬКІ НАЗІРАЕМ.
АДНАК, ЛЕА, ДВА СУПРАЦЬ АДНАГО – ГЭТАГА ЎЖО НЕ СТРОМКА.
МАБЫЦЬ І ТАК...
"...АЛЕ ГЭТА НЕ НАШ ТАНЕЦ".


РАГХ!
ЗАНАДТА ПАВОЛЬНА!
ГРРАХХ!


ВОСЬ ГЭТА ДЫК...
А НУ ПРЭЧ!
МАЯ ЧАРГА.
FWAK
ДОБРА...
...У ВАС.
ЙААРГХ!


ЗАГІНЬ.
Г-ГХРЛГ...
З МЯНЕ ХОПІЦЬ!
РАФ, СПЫНІСЯ!
РАБІ, ШТО ПАЖАДАЕШ, ЧУВАК. АЛЕ Я МАЮ НАМЕР ЗРАЎНЯЦЬ...
FWOOMP


УХ. ГРАНАТА НІНЗЯ.
ВА...
ХЛОПЦЫ! ЁН ЯШЧЭ ЖЫВЫ!
Д'ЯБЛ! КУДЫ ЯНЫ ЗНІКЛІ?
УСЁ Ў ПАРАДКУ, МУЖЫК, МЫ ПАКЛІЧАМ ДАПАМОГУ. ТОЛЬКІ ТРЫМАЙСЯ.
ВА... УНФ... ВАЙНА...
...НАБЛІЖА-ЕЦЦА.
ЁН... ПАМЁР.
АЛЕ... ШТО ЁН КАЗАЎ?
НУ, МОЙ ФРАНЦУЗСКІ НЕ ВЕЛЬМІ ДОБРЫ, ЯК ВЕДАННЕ HTML, АЛЕ Я АМАЛЬ УПЭЎНЕНЫ, ШТО ЁН СКАЗАЎ...
"...НАБЛІЖА-ЕЦЦА ВАЙНА."


"ВЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ ГРАЛІ Ў БЕЙСБОЛ, МІСТЭР НЯЧЫСЦІК?"
БЕЙС... ШТО?
АХ ТАК, УВЕСЬ ЧАС ЗАБЫВАЮ, ШТО ТОЛЬКІ НЯДАЎНА ДАЛУЧЫЛІСЯ ДА ШЭРАГАЎ ПРОСТАХОДНЫХ І РАЗУМОВЫХ. ЗДАЕЦЦА, АДЗІНАЯ РЭЧ, З ЯКОЙ ВАМ, МЯРКУЮЧЫ ПА ЎСІМ, ПРЫХОДЗІЛАСЯ ПАГУЛЯЦЬ, ГЭТА КЛУБОК НІТАК.
ДЫ ВЕДАЮ Я, ШТО ТАКОЕ БЕЙСБОЛ – Я НЕ ТУПЫ. НАВОШТА ТЫ ХІЛІШ, СТОКМАН?
Я ДА ТАГО, ШТО ПА ПРАВІЛАХ БЕЙСБОЛА ГУЛЬЦУ ДАЕЦЦА ТРЫ СПРОБЫ НА ЎДАР, ПЕРШ ЧЫМ ЁН ВЫБЫВАЕ.
ВЫ ЖА, МІСТЭР НЯЧЫСЦІК, УЖО СПРАБАВАЛІ ПЕРАМАГЧЫ ПАЦУКА І ЯГО РЭПТЫЛІЙ ДВОЙЧЫ. І АБОДВА РАЗЫ, СМЕЮ ЗАЎВАЖЫЦЬ, ВЫ ПРАМАХНУЛІСЯ.
А ЦЯПЕР У ВАС, ВІДАВОЧНА, ЗАСТАЛАСЯ ТОЛЬКІ АДНА СПРОБА.
НЕ ДУШЫ НА МЯНЕ, СТОКМАН. Я ЗНАЙШОЎ ІХ, ЯК І АБЯЦАЎ, АЛЕ, ВІДАЦЬ, ШТО ТОЙ ФУЗЫ, ЯКОЙ ВЫ МЯНЕ ЗАБЯСПЕЧВАЕЦЕ, НЕДАСТАТКОВА, КАБ ЗЛАДЗІЦЬ З ГЭТЫМІ ДУРНЯМІ.
ЯК ЖА ЦІКАВА АТРЫМЛІВАЕЦЦА, МІСТАР НЯЧЫСЦІК...
І ШТО ДАКЛАДНА ВЫ ПРАПАНУЕЦЕ, КАБ ВАШ ТРЭЦІ ЎДАР НЕ АПЫНУЎСЯ АПОШНІМ, М?
УЛІЧВАЮЧЫ, ЯК ГЭТЫЯ ВЫРАДКІ ЗМАГАЮЦЦА, МНЕ НЕАБХОДНА ЦЭЛАЕ ВОЙСКА. НЕВЕРАГОДНА ДОБРАЕ ВОЙСКА.


пачаць адразу пасля
хто зацікаўлены
нуйце. Эйпрыл
ШТО ГЭТА ЗА БРУД У ЦЯБЕ ТУТ, СЯРУН?
ГЭТА НІЧОГА... ГЛУПСТВА. ГЭТА ПРОСТА НУМАР, ПА ЯКОМУ Я ЗБІРАЮСЯ ПАТЭЛЕФАНА-ВАЦЬ, КАБ МЯНЕ ЎЗЯЛІ НА ПРАЦУ.
ПРАЦУ?! ХА! ТЫ, НАПЭЎНА, ЖАРТУЕШ? ТЫ НЕ ЗМОГ СТРЫМАЦЬ СВАЮ ЎЛАСНУЮ ДУПУ НАВАТ У ГЭТАЙ ДУРНОЙ ХАКЕЙНАЙ КАМАНДЗЕ.
ПРАЦУ-ТРАСЦУ.
ТАК, САПРАЎДЫ...
...ТАБЕ НАОГУЛ АДКУЛЬ ВЕДАЦЬ?
ТУПЫ, НІКЧЭМНЫ АЛКАШ.


ЗНАЧЫЦЬ, ТОЙ ВАЯР, ЯКОГА ЗАБІЛІ – ЁН РАЗМАЎЛЯЎ ПА-ФРАНЦУЗСКУ?
ТАК, МАЙСТАР СПЛІНТАР. І ЁН СПРАБАВАЎ ЗБЕГЦІ АД ГЭТЫХ ДВУХ НІНЗЯ, ВЫКОНВАЮЧЫ РУХІ, ПАДОБНЫЯ НА ПАРКУР.
А ВОСЬ СТЫЛЬ, У ЯКІМ ЁН ЗМАГАЎСЯ... ТАКОГА Я ЯШЧЭ НЕ БАЧЫЎ.
ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО, МЫ ЗДЗЯЙСНІЛІ ПАМЫЛКУ. ТРЭБА БЫЛО ДАПАМАГЦІ ХЛОПЦУ, ЛЕА. ГЭТЫХ ПАДОНКАЎ БЫЛО ДВА.
ПА ВАШЫХ АПІСАННЯХ, ГЭТЫЯ "ПАДОНКІ", ЯК ТЫ ІХ КЛІЧАШ, ПАДОБНЫ НА НІНЗЯ КЛАНА ФУТ, ПРА ЯКІ Я ВАМ РАСПАВЯДАЎ. КАЛІ ГЭТА ТАК, ТО ЯНЫ НІКОЛІ НЕ ЗМАГАЮЦЦА СУМЛЕННА, МАЕ СЫНЫ.
НУ, ХТО Б ЯНЫ НІ БЫЛІ, ГЭТА НЕ СПРАВЯДЛІВА. НАМ ТРЭБА БЫЛО НЕШТА ЗРАБІЦЬ.
Я РАЗУМЕЮ ТВАЕ ВЫСАКА-РОДНЫЯ ІМКНЕННІ, РАФАЭЛЬ, АЛЕ УСЁ Ж, ВЫ ПРАВІЛЬНА ЗРАБІЛІ, ШТО ТРЫМАЛІСЯ Ў БАКУ.
МАГЧЫМА, МЫ І ВЕДАЕМ У ТВАР НАШЫХ ВЫКЛЯТЫХ ВОРАГАЎ, АЛЕ ХТО З НЕЗНАЁМЫХ НАМ ЛЮДЗЕЙ МОЖА АПЫНУЦЦА СУПЕРНІКАМ – АБО СЯБРАМ – ГЭТА НЕВЯДОМА.
САВАТ!
САВАЦЬ?
НЕ, МАЙКІ – САВАТ. ТАК ЗАВЕЦЦА СТЫЛЬ, ЯКІ ВЫКАРЫСТОЎВАЎ ТОЙ ФРАНЦУЗ. ГЭТА ФРАНЦУЗСКАЯ СІСТЭМА БАЯВЫХ МАСТАЦТВАЎ, ЯКАЯ З'ЯВІЛАСЯ Ў ПАЧАТКУ 19-ГА СТАГОДДЗЯ АБО КАЛЯ ТАГО.
ФРАНЦУЗ ВЫКАРЫСТОЎВАЕ КУНГ ФУ. А Ў ГЭТЫМ ЁСЦЬ СЭНС.




* "БОГ З МАШЫНЫ" (DEUS EX MACHINA) – ВЫРАЗ, ЯКІ ПАЗНАЧАЕ НЕЧАКАНУЮ, ЗНАРОЧЫСТУЮ РАЗВЯЗКУ ТОЙ ЦІ ІНШАЙ СІТУАЦЫІ, З ПРЫЦЯГНЕННЕМ ВОНКАВАГА ФАКТАРУ, ЯКІ РАНЕЙ НЕ ДЗЕЙНІЧАЎ Ў ЁЙ, ШТО ЗВЫЧАЙНА РАТУЕ СТАНОВІШЧА, ЯКОЕ ЗДАВАЛАСЯ БЕЗНАДЗЕЙНЫМ. У АНТЫЧНАЙ ТРАГЕДЫІ РАЗВЯЗКА НЕЧАКАНА НАСТАВАЛА, ДЗЯКУЮЧЫ ЎМЯШАННЮ ЯКОГА-НЕБУДЗЬ БОГА, ЯКІ З'ЯЎЛЯЎСЯ НА СЦЭНЕ ПРЫ ДАПАМОЗЕ МЕХАНІЧНАГА ПРЫСТАСАВАННЯ.


"...АДНАК НАВУКА САПРАЎДЫ ЗГУЛЯЛА ВАЖНУЮ РОЛЮ Ў НАШЫМ ВЯРТАННІ."
"УСЁ ПАЧАЛОСЯ, КАЛІ Я ЎПЕРШЫНЮ АЧУЎСЯ Ў ЛАБАРАТОРЫІ."
"АПОШНЯЕ, ШТО Я МОГ УЗГАДАЦЬ, ЯК МЕЧ ПРАНОСІЦЦА НАД МАЁЙ ГАЛАВОЮ І ПРАНІЗВАЕ ШЫЮ..."
"...А ПРАЗ НЕКАТОРЫ ЧАС МЯНЕ ПРАТЫКНУЛІ ЗУСІМ ІНШЫМ МЯЧОМ."
"МЯЧОМ, ЯКІ НЕ ЗАБІЎ МЯНЕ, А НААДВАРОТ, ВЫЗВАЛІЎ."
"ПАКОЛЬКІ ПАСЛЯ ГЭТЫХ ІН'ЕКЦЫЙ МАЯ СВЯДОМАСЦЬ ПАЧАЛА ЎСЁ БОЛЬШ І БОЛЬШ ПАШЫРАЦЦА, Я НАВУЧЫЎСЯ ДУМАЦЬ І НАВАТ АТРЫМАЎ УСПАМІНЫ АБ МАІМ МІНУЛЫМ ЖЫЦЦІ, У ЯКІМ Я БЫЎ ДАЛЁКА НЕ ПАЦУКОМ У КЛЕТЦЫ."
"І, КАЛІ Я ЎБАЧЫЎ ВАС – ЧАЦВЯРЫХ МАЛЕНЬКІХ ЧАРАПАХ, ЯКІЯ БЕЗТУРБОТНА ПОЎЗАЛІ Ў ГЭТЫМ ШКЛЯНЫМ КАНТЭЙНЕРЫ – У ГЛЫБІНІ ДУШЫ Я ВЕДАЎ, ШТО МАЕ МАЛЕННІ БЫЛІ ЎСЛЫХАНЫЯ, І ШТО, НАРЭШЦЕ, НАСУПЕРАК ЗЛАСЛІВЫМ ПАДКОПАМ АРОКУ САКІ..."
"...МЫ ЗНОЎ ЗНАЙШЛІ АДЗІН АДНАГО."


"ТАКСАМА Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО НАШАЕ ЎЗ'ЯДНАННЕ БЫЛО АРГАНІЗАВАНА З ПЭЎНАЙ МЭТАЙ. ВУЧОНЫЯ ПЕРАСЛЕДВАЛІ ЗЛЫЯ НАМЕРЫ – НЕШТА НАКОНТ САКРЭТНАЙ ВАЕНАЙ ПЕРАВАГІ. УСЁ ГЭТА БЫЛО МНЕ ДА БОЛЮ ЗНАЁМА."
"АДНОЙЧЫ Ў ЛАБАРАТОРЫІ З'ЯВІЛАСЯ ПРАЦОЎНІЦА, АД ЯКОЙ ЗЫХОДЗІЛА АЎРА ЗЫЧЛІВАСЦІ І ДОБРАНАМЕРНАСЦІ. Я ЗРАБІЎ УСЁ, ШТО МОГ, КАБ ПАПЯРЭДЗІЦЬ ЯЕ АБ ХУТКАЙ НЕБЯСПЕЦЫ."
"НЕБЯСПЕЦЫ, ЯКАЯ НЕ ПРЫМУСІЛА СЯБЕ ДОЎГА ЧАКАЦЬ. ПРАЗ НЕКАТОРЫ ЧАС У ЛАБАРАТОРЫЮ ЎВАРВАЛІСЯ НАШЫЯ СТАРЫЯ ВОРАГІ, НІНЗЯ КЛАНА ФУТ..."
...НУ А АСТАТНЯЕ ВЫ ВЕДАЕЦЕ. ЦЯПЕР МЫ СЯМ'Я. СЯМ'Я, ЯКАЯ БЫЛА ЎЗ'ЯДНАНА, ДЗЯКУЮЧЫ І НАВУКОВЫМ, І МІСТЫЧНЫМ ФАКТАРАМ. МЫ ЎЖО ІНШЫЯ, АДНАК УСЁ Ж ТАКІ ГЭТА МЫ.
АЛЕ ЧАМУ МЕНАВІТА ГЭТАК, БАЦЬКА? МЫ ЖА РАНЕЙ БЫЛІ ЛЮДЗЬМІ, ЧАМУ ЗАРАЗ МЫ ВЫГЛЯДАЕМ... ВЫГЛЯДАЕМ ВОСЬ ТАК?
ГЭТАГА Я НЯ ВЕДАЮ, СЫН МОЙ. АЛЕ, УРЭШЦЕ, ВАЖНА, НЕ ТОЕ, ЯК МЫ ВЫГЛЯДАЕМ, А ТОЕ, ШТО ЎНУТРЫ НАС. ЯКОЙ БЫ НІ БЫЛА ПРЫЧЫНА ЎСЯГО ГЭТАГА, Я ЎПЭЎНЕНЫ...


"...ШТО ЎСЁ ГЭТА НЕЗАДАРМА."
ІНТЭРНАТ "НЮ-ЁРК ТЭКА" ЗАЛА Н
ЗАДАРМА Я СЮДЫ ПРЫЙШОЎ...
НІХТО МЯНЕ НЕ ВОЗЬМЕ НІ НА ЯКУЮ ПРАЦУ.
НУ ДОБРА, ПАСПРАБУЮ.
KNOCK KNOCK KNOCK
ТАК-ТАК?
ЭМ, ПРЫВІТАННЕ. Я... ГЭТА... ТЭЛЕФАНАВАЎ. НАКОНТ АБ'ЯВЫ, ЯКУЮ ЎБАЧЫЎ НА ДОШЦЫ.
ТАК... ЗРАЗУМЕЛА. ГЭТА ДА МАЁЙ СУСЕДКІ. ХВІЛІНКУ.
ПРЫВІТАННЕ, ТЫ, ПЭЎНА, КЕЙСІ...


ТАКІМ ЧЫНАМ, МІСТАР НЯЧЫСЦІК, КАЖАЦЕ, КАБ ПЕРАМАГЧЫ ПАЦУКА-АДРАЧЭНЦА І ЯГОНЫХ РЭПТЫЛІЙ-ПРАТЭЖЭ, ВАМ НЕАБХОДНА ВОЙСКА?
НУ, КАЛІ ТЫ АБ ГЭТЫМ ХУДЫМ ПАЦУКЕ І ГІДКІХ ЧАРАПАХАХ, ТОЕ ТАК... ВОЙСКА Б НЕ ПЕРАШКОДЗІЛА.
ЗДАЕЦЦА, ВАМ ПАШЧАСЦІЛА. СТОКГЕН УЖО НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ ЗАЙМАЕЦЦА РАСПРАЦОЎКАЙ У ПЭЎНЫМ СЭНСЕ ВОЙСКА. ВОЙСКА, ЯКОЕ ЗМАГЛО Б ДАПАМАГЦІ ВАМ, НАРЭШЦЕ, ДАМАГЧЫСЯ ПОСПЕХУ Ў ВАШАЙ МІСІІ.
ХАЛЕРА ЯГО...
УРАЖВАЕ, ТАК? МЫ РАСПРАЦОЎВАЛІ ІХ ДЛЯ ПОШУКА І АБЯСШКОДЖВАННЯ С.В.П. НА ПАЛЯХ БІТВАЎ.
С.В.П.?
САМАРОБНЫЯ ВЫБУХНЫЯ ПРЫЛАДЫ.
...
МІНІ-ПАСТКІ, ЯКІЯ ВЫБУХАЮЦЬ.
А. ЗРАЗУМЕЎ.


ТАКІМ ЧЫНАМ, Я ПАПРАСІЎ ВУЧОНЫХ ПЕРАПРАГРАМАВАЦЬ ІХ У АДПАВЕДНАСЦІ З ВАШЫМ ЗАДАННЕМ.
ШТО ТЫ МАЕШ НА ЎВАЗЕ?
ТАМ БУДЗЕ НЕАБХОДНА НЕЙКАЕ РУЧНОЕ КІРАВАННЕ, АЛЕ НАВАТ ВЫ, З ВАШЫМІ АБМЕЖАВАНЫМІ ЗДОЛЬНАСЦЯМІ, ПАВІННЫ ЗЛАДЗІЦЬ.
МАГЧЫМА, ЛЕПШ НЕ ПАКАЗВАЦЬ.
ШТО ЗА...?
SLAM
А ЗАРАЗ, МІСТАР НЯЧЫСЦІК, ВЫ АДЧУЕЦЕ, ЯК Я МАГУ ДУШЫЦЬ ВАС, НАХАБНЫ ВЫ ДУРАНЬ.
CLICK
АКТЫВАЦЫЯ


ВОСЬ ЧОРТ.
МЕНАВІТА ТАК, МІСТАР НЯЧЫСЦІК...
...ЗАРАЗ МЫ ВЫПУСЦІМ ЧОРЦІКА З ТАБАКЕРКІ.
ГАХ!
SNAP
ШТО ТЫ РОБІШ, СТОКМАН?!
ПРАВЯРАЮ ЯКАСЦЬ ВЫКАНАНАЙ РАБОТЫ, МІСТАР НЯЧЫСЦІК...


ПРАКЛЁН!
Я Ж ПАВІНЕН БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫ, ШТО ТВАЁ НОВАЕ ВОЙСКА ПРАЦУЕ
І ТРЭБА ЗАЎВАЖЫЦЬ, У АДРОЗНЕННЕ АД ВАС, ЯНЫ ПАКУЛЬ АПРАЎДВАЮЦЬ МАЕ ЧАКАННІ.
KRRSH
АХХ!
CNNCH
Я ПРОСТА ЖАДАЎ УПЭЎНІЦЦА, ШТО Ў ГЭТЫ РАЗ Я АТРЫМАЎ ТОЕ, ЗА ШТО ПЛАЦІЎ.
ПРЫБЯРЫ АД МЯНЕ ГЭТЫХ ДУРНАВАТЫХ ГАДАЎ!
КАЛІ ЛАСКА.
ГЭТЫЯ "ДУРНАВАТЫЯ ГАДЫ", ЯК ВЫ ІХ НАЗВАЛІ, МАЮЦЬ ІМЯ ЎЛАСНАЕ. ЦАЛКАМ ЯНО ГУЧЫЦЬ ЯК "МІННА-АРТЫЛЕРЫЙНА-ЎТЫЛІТАРНАЯ ЗАРАДЖАЛЬНАЯ АДЗІНКА РОБАТАЎ".


СКАРОЧАНА Я ЗАВУ ІХ МАУЗАРАМІ.
ПРАЦЯГ БУДЗЕ!


ПЛАНЕТА НЕЙТРЫНА.
ЧОРТ УСЁ ДЗЯРЫ!
ЯКІЯ НАШЫ БАЯВЫЯ СТРАТЫ Ў ГЭТЫ РАЗ, ГЕНЕРАЛ ТРАГГ?
ШЭСЦЬ КАМЯНЫХ САЛДАТ, ГЕНЕРАЛ КРЭНГ – НЕКАЛЬКІ ЛЕПШЫХ БАЙЦОЎ НАШАЙ ГРУПЫ СПЕЦПРЫЗНА. ЯНЫ ПАСПЯХОВА ВЫКАНАЛІ БОЛЬШ ТУЗІНА АПЕРАЦЫЙ СУПРАЦЬ БСН ДА ТАГО, ЯК ПАТРЫВАЛІ НЯЎДАЧУ.
НЯЎДАЧУ? ТЫ ТАК ГЭТА ЗАВЕШ, ТРАГГ? МЫ СТРАЦІЛІ ШЭСЦЬ ДОБРЫХ САЛДАТАЎ, А БАЙЦЫ СУПРАЦІВУ НЕЙРЫНА – ТОЛЬКІ АДНАГО.
МНЕ ЗДАЕЦЦА, ГЭТА КАТАСТРОФА.
Я НЕ ПАТРЫ-ВАЮ ТАКОГА БОЛЬШ!
СЯРЖАНТ ГРАНІТАР, МЫ НЕАДКЛАДНА ВЯРТАЕМСЯ НА ВОСТРАЎ БЁРНАЎ!
ТАК, СЭР.
КАМАНДНЫ ПОСТ БЁРНАЎ, ГЭТА ГРАНІТАР. ПАЧЫНАЙЦЕ ТЭЛЕПАРТАЦЫЮ.
ПРЫНЯТА, СЯРЖАНТ. ТЭЛЕПАРТАЦЫЯ ЗАПУШЧАНА.


FOOM
ВОСТРАЎ БЁРНАЎ.
ВІТАЕМ, ГЕРЕРАЛ КРЭ...
ПАКІНЬ СВАЕ ЛАСКІ, ЛЕЙТЫНАНТ ПОЎГ. У ВАС АТРЫМАЛАСЯ, УРЭШЦЕ, ЗВЯЗАЦЦА З ГЭТЫМ АБІБОКАМ СТОКМАНАМ?
Н-НЕ, СЭР. МЫ СПРАБАВАЛІ НЕКАЛЬКІ РАЗОЎ, АЛЕ ЁН ТАК І НЕ АДКАЗАЎ, ГЕНЕРАЛ.
СКАЖЫ МАЙМУ ПІЛОТУ ПАДРЫХТА-ВАЦЬ САМАЛЁТ: Я ЗБІРАЮСЯ НАНЕСЦІ ДОКТАРУ ВІЗІТ. НАМ З ІМ ДАЎНО ТРЭБА БЫЛО СУСТРЭЦЦА...
...І ПАГАВАРЫЦЬ САМ-НАСАМ.


НЮ-ЁРК.
...ЧУВАК, Я ТАКІ ДАВОЛЬНЫ, ШТО ТЫ, НАРЭШЦЕ, ПАЗНАЁМІШСЯ З ВУДЗІ, БРАЦІШКА! ЁН ПРОСТА НЕВЕРАГОДНЫ ХЛОПЕЦ, Я ЎЖО КАЗАЎ ТАБЕ?
ТАК, МАЙКІ, ТЫ КАЗАЎ...
...ЎЖО МІЛЬЁН РАЗОЎ.
RUPERT'S PIZZERIA
УХ ТЫ. Я БЫВАЎ ТУТ РАНЕЙ, КАЛІ ЖЫЎ ЯШЧЭ НА ВУЛІЦЫ. У МЯСЦОВЫХ СМЕЦЦЯВЫХ БАКАХ ЗАЎСЁДЫ БЫЛО, ЧЫМ ПАЧАСЦІЦЦА.
НЯ МОЖА БЫЦЬ! ТЫ БЫВАЎ У ГЭТЫМ МЕСЦЫ, У ТОЙ ЧАС, ЯК МЫ ШУКАЛІ ЦЯБЕ, І МЫ НІКОЛІ НЕ ПЕРАСЯКАЛІСЯ? ЯК ЖА ДЗІЎНА, ЧУВАК.
І НЕ КАЖЫ. Я НЕКАЛЬКІ РАЗОЎ НЯБЛАГА ТУТ ПАЧАСЦІЎСЯ, ПАКУЛЬ НАРЭШЦЕ МЯНЕ НЕ ПРАГНАЎ НЕЙКІ ЗЛЫ СТАЧОК.
ХА! НАПЭЎНА, ГЭТА БЫЎ СТАРЫ РУПЕРТ, УЛАДАЛЬНІК ГЭТАГА МЕСЦА. ЁН БЫВАЕ ТЫМ ЯШЧЭ ГРУБІЯНАМ.
АЛЕ НЕ КЛАПАЦІСЯ, БРАЦІШКА, ТАМУ ШТО ВУДЗІ – СТРОМКІ ЧУВАК, Я ЎЖО КАЗАЎ ТАБЕ? ЁН ТАКСАМА СХАПІЎ НАС ЗА КАПАННЕМ У СМЕЦЦІ, КАЛЯ ГОДА ТАМУ...
«...ГЭТА БЫЎ ВЫДАТНЫ ДЗЕНЬ У КАЛЯНДАРЫ НАШАГА ПІЦА-ПАГЛЫНАННЯ!»
ЁЎ, ШТО ЖА ВЫ ДЗЕЕЦЕ, ЧУВАКІ?!


ХЛОПЦЫ, НАВОШТА ТРАЦІЦЬ СВОЙ ЧАС НА ГЭТАЕ СМЕЦЦЕ? ЦІ НЕ ЛЕПШ ПАЧАСЦІЦЦА...
...ГЭТЫМ?!
«ГЭТА БЫЛО КАХАННЕ З ПЕРШАГА ПОЗІРКУ. Я НІКОЛІ НЕ БАЧЫЎ НІЧОГА НАЙДАСКАНАЛАГА, БРАЦІШКА... ДАКЛАДНЕЙ, СЫРНАГА.»
RUPERT'S PIZZERIA
...З ТЫХ ЧАСОЎ ВУДЗІ НАЗАЎСЁДЫ СТАЎ МАІМ ЛЕПШЫМ СЯБРАМ НА АБЕД!
І ЯГО НЕ КЛАПОЦІЦЬ ТОЙ ФАКТ, ШТО МЫ... НУ, ТЫ ВЕДАЕШ?
БЯЗВЕЖАВЫЯ ЗЯЛЁНЫЯ БАЯВЫЯ МАШЫНЫ? НЕ, ЁН КАЖА, ШТО ТАКІЯ ДЗІВАКІ, ЯК МЫ, ПАВІННЫ ТРЫМАЦЦА РАЗАМ. ДАРЭЧЫ, Я БОЛЬШ ЧЫМ УПЭЎНЕНЫ, ШТО ЁН ЛІЧЫЦЬ НАС МАРСІЯНАМІ. ЁН ВЕЛЬМІ КЛАСНЫ, Я ТАБЕ ЎЖО КАЗАЎ?
KNOCK KNOCK KNOCK
ZZERIA
ЁЎ, МАЙКСТАР! БІНГА...
...БОНГА!



ВУДЗІ ДЗЭКІНС, ДАЗВОЛЬ ПРАДСТАВІЦЬ ТАБЕ МАЙГО БРАТА, РАФАЭЛЯ, НЕКАЛІ СТРАЧАНАГА, АЛЕ ЗАРАЗ НАНОВА ЗДАБЫТАГА... І, У ДАДАТАК, ПРОСТА ВЫДАТНАГА ЧУВАКА.
ВЫДАТНА, РАФАЭЛЬ! ЧУВАК, ТВАЕ БРАТЫ ВЕЛЬМІ ДОЎГА НАДРЫВАЛІ СВАЕ АЗАДКІ, ШУКАЮЧЫ ЦЯБЕ. Я САПРАЎДЫ РАДЫ, ШТО ЎСЁ Ў ІХ АТРЫМАЛАСЯ.
САПРАЎДЫ, Я ТАКСАМА, І ГЭТА ДОБРА, НАРЭШЦЕ, ПАЗНАЁМІЦЦА З ТАБОЮ МАЙКІ КАЖА АБ ЦЯБЕ... ВЕЛЬМІ ЧАСТА.
ХЕХ. ГЭТА ТАМУ ШТО МАЙКСТАР ТОЛЬКІ ГЭТА І ЎМЕЕ.
МАБЫЦЬ, ГЭТА ТАМУ, ШТО ТЫ ПАДЛІВАЕШ У СВАЮ ПІЦУ НЕЙКАЕ ГІПНАТЫЧНАЕ ЗЕЛЛЕ, ЧУВАК, ЯКОЕ ДЗЕЙНІЧАЕ НА МОЙ РОЗУМ І МАЕ СМАКАВЫЯ АДЧУВАННІ.
ЯК ТЫ ЗДАГАДАЎСЯ? ДАРЭЧЫ АБ СМАКАВЫХ АДЧУВАННЯЎ, Я ТАКСАМА ПАКЛАЎ ВЯЛІКУЮ ПОРЦЫЮ ІТАЛЬЯНСКАГА САЛАТЫ ДЛЯ ВАШАГА БАЦЬКІ, ПАБОЛЬШ АЛІВАК, ПРАМ ТАК, ЯК ЛЮБІЦЬ ВАШ ЧАЛАВЕК-ПАЦУК.
ВЫДАТНА, ДЗЯКУЙ!
ДЫ НЯМА ЗА ШТО, АМІГА... ТОЛЬКІ НІ СЛОВА РУПЕРТУ. ХЕХ.
RUPERTS PIZZERIA
НУ ДОБРА, МНЕ ЧАС ВЯРТАЦЦА ДА ПРАЦЫ, СЯБРЫ. БЫЛО ПРЫЕМНА ПАЗНАЁМІЦЦА, РАФ.
І, МАЙКІ... НУ ТЫ РЭПТЫЛІЯ!
НУ ТЫ МУЖЫК!
ШТО ЗА ЎРАЖЛІВЫ ЧУВАК. Я ЎЖО КАЗАЎ ТАБЕ?


* ГЛ. МІНУЛЫ ВЫПУСК.
Я ПРОСТА Ў ГЭТА НЕ ВЕРУ, ЛЕА...
Я ПРОСТА НЕ ВЕРУ.
АЛЕ ТЫ ЖА БАЧЫЎ ІХ УЛАСНЫМІ ВАЧАМІ, ДОНІ. ГЭТА НІНЗЯ «ФУТ» ЗМАГАЛІСЯ СУПРАЦЬ ФРАНЦУЗА НА ТЫМ ДАХУ*.
НЕ, Я БАЧЫЎ, ЯК НІНЗЯ ЗМАГАЛІСЯ З ХЛОПЦАМ, ЯКІ ВАЛОДАЕ САВАТАМ. ГЭТА МАЙСТАР СПЛІНТАР КАЗАЎ ПРА НІНЗЯ «ФУТ», І ЁН ІХ НАВАТ НЕ БАЧЫЎ.
ТАК, АЛЕ МЫ ВЕЛЬМІ ДЭТАЛЁВА ІХ ЯМУ АПІСАЛІ. КАЛІ ЎЖО ХТО І ВЕДАЕ, ЯК ВЫГЛЯДАЮЦЬ НІНЗЯ «ФУТ», ДЫК ГЭТА НАШ БАЦЬКА.
І ВОСЬ ТУТ ТАКСАМА СКЛАДАНАСЦЬ, БРАТ. БАЦЬКА КАЖА, ШТО ВЕДАЕ, ЯК ВЫГЛЯДАЮЦЬ «ФУТ», ТАМУ ШТО ЁН БЫЎ АДНІМ З ІХ У ФЕАДАЛЬНАЙ ЯПОНІІ... І ГЭТА ТРЫЗНЕННЕ НЕЙКАЕ.
ДЫ ПАКІНЬ, ЛЕА... РЭІНКАРНАЦЫЯ? ГЭТА ГУЧЫЦЬ НАСТОЛЬКІ Ж ПРАЎДАПАДОБНА, ЯК ЛЮБАЯ З ГЭТЫХ ТУПЫХ ГІСТОРЫЙ З КОМІКСАЎ МАЙКІ.
КАЛІ ГЭТА ПРАЎДА, ТАДЫ ЧАМУ ЁН ПАМЯТАЕ МІНУЛАЕ, А МЫ НЕ?
ТЫ ВЕДАЕШ, Я НЕ ТАК УПЭЎНЕНЫ НА КОНТ ГЭТАГА.
У СЭНСЕ... ЧАСАМ, КАЛІ Я СПЛЮ, Я... БАЧУ НАШТА, МІМАЛЁТНЫЯ ВЫБЛІСКІ, ЯКІЯ ЗДАЮЦЦА РЭАЛЬНЫМІ, БЫЦЦАМ... СЛОВАМ ГЭТА АДБЫВАЛАСЯ СА МНОЙ. ЧАСАМ Я НАВАТ БАЧУ...
ЯЕ.


КАГО?
НЯ ВАЖНА.
НУ І ДОБРА. Я ВЕДАЮ ТОЛЬКІ АДНОЕ, МНЕ ВЕЛЬМІ ХОЧАЦЦА ПАВЕРЫЦЬ БАЦЬКУ, АЛЕ, У ТОЙ ЖА ЧАС, Я НЕ МАГУ ПРЫМАЦЬ РЭЧЫ І НА СЛЯПУЮ ВЕРУ. ДЛЯ ГЭТАГА МНЕ ПАТРАБУЮЦЦА ЭМПІРЫЧНЫЯ ДОКАЗЫ.
МАБЫЦЬ, ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА АБ АРОКУ САКІ СТАНЕ ДОБРЫМ ПАЧАТКАМ. ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, У НАС ЁСЦЬ ПРАЎДЗІВАЕ ІМЯ ДЛЯ ПОШУКУ, НАВАТ КАЛІ ЁН ДАЎНО МЁРТВЫ.
ПАСЛУХАЙ, ДОН, Я РАЗУМЕЮ, ШТО Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ ПЫТАННІ. ЧОРТ, ДЫ І Ў МЯНЕ ЁСЦЬ ЦЭЛАЯ ГАРА. АЛЕ ПРАМА ЗАРАЗ, Я ЛІЧУ, ЛЕПШ ВЫЯВІЦЬ ПАВАГУ ДА ТАГО, ШТО КАЖА СЭНСЭЙ І ПАЧАКАЦЬ, ЧЫМ УСЁ СКОНЧЫЦЦА.
ЧЫМ КОНЧЫЦ-ЦА?
«ЛЕА, МЫ ЖЫВЕМ У КАНАЛІЗАЦЫІ...»
«...ЧЫМ ДАКЛАДНА ГЭТА МОЖА КОНЧЫЦЦА ДЛЯ НАС ТУТ І ЗАРАЗ?»


ГІМНАСТЫЧНАЯ ЗАЛА УНІВЕРСІТЭТА «НЮ-ЁРК ТЭК».
ХІІІ-ЙЯ!
ДОБРА!
ГЭТА БЫЛО ВЕЛЬМІ ДОБРА, ЭЙПРЫЛ. У ЦЯБЕ САПРАЎДЫ ПАЧЫНАЕ АТРЫМЛІВАЦЦА. ТОЛЬКІ НЕ ЗАБЫВАЙ БОЛЬШ РУХАЦЬ СЦЁГНАМІ, БЫЦЦА РАЗМАХВАЕШ БЕЙСБОЛЬНАЙ БІТАЙ. ТАБЕ БУДЗЕ НЕ ХАПАЦЬ АДНОЙ ТОЛЬКІ МОЦЫ ТВАІХ РУК.
ДЫК, ТЫ ХОЧАШ СКАЗАЦЬ, ШТО Ў МЯНЕ СЛАБЫЯ РУКІ?
ОЙ... НЕ... Я МЕЎ НА ЎВАЗЕ...
ДЫ Я ПРОСТА ЖАРТУЮ, КЕЙСІ. ТВАЕ ПАРАДЫ ВЕЛЬМІ ДАПАМАГАЮЦЬ.


НУ А ЗАРАЗ ДАЗВОЛЬ МНЕ ПЕРААПРАНУЦЦА, І МЫ ЗОЙМЕМСЯ ТЫМІ ЗАДАННЯМІ ПА АНГЛІЙСКАЙ, ЯКІЯ ТАБЕ ТРЭБА ВЫКАНАЦЬ.
ОХ, НУ МОЖА МЫ, ЭЭЭ... ПРАПУСЦІМ ГЭТА. Я... Я НЕ ЎЗЯЎ З САБОЮ НІ АСАДКАЎ, НІ ПАПЕРУ.
АГА, МЕНАВІТА ГЭТА ТЫ І КАЗАЎ У МІНУЛЫ РАЗ.
АЛЕ НЕ ПЕРАЖЫВАЙ, ТАМУ ШТО СЁННЯ Ў МЯНЕ Ў ЗАПЛЕЧНІКУ ДАСТАТКОВА І ТАГО, І ІНШАГА... ПЛЮС МОЙ НОЎТБУК.
ТАКІМ ЧЫНАМ ПРЫМІ ДУШ, ПЕРААПРАНАЙСЯ. І МЫ АДПРАВІМ ТВАЮ ЗАДАННЕ Ў НАКАЎТ!
О, БОЖА.


ТРЫМАЙЦЕ АБАРОНУ, СЫНЫ МАЕ!
МЫ СПРАБУЕМ!
ХІІЙА!
КОЛЬКІ ТУТ ГЭТЫХ ЗВАР'ЯЦЕЛЫХ ШТУКОВІН?
ДЫ ЯКАЯ РОЗНІЦА, КОЛЬКІ?! МЯНЕ БОЛЬШ ЦІКАВІЦЬ...
«АДКУЛЬ, ХРЭН БЯРЫ, ЯНЫ БЯРУЦЦА?!»


ЗАРАЗ ВАЖНА СКАНЦЭНТРАВАЦЦА НА БОЙКЕ, СЫНЫ МАЕ...
...ПЫТАННІ МОЖНО АДКЛАСЦІ НА ПОТЫМ!
ДОБРА, СЭНСЭЙ!
ГАХ!
РААХХ!


ЦУДОЎНА...
...ЧАРТОЎСКІ ЦУДОЎНА.


І ВЕЧАРЫНА ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЕЦЦА.
СЭНСЭЙ, ІХ СТАНОВІЦЦА ЎСЁ БОЛЬШ І БОЛЬШ!
ТАК, Я БАЧУ, ЛЕАНАРДА! МЫ ВЕЛЬМІ І ВЕЛЬМІ САСТУПАЕМ КОЛЬКАСЦЦЮ...
НАМ ТРЭБА АДЫСЦІ, КАБ ПЕРАГУРТА-ВАЦЦА.


ГЭЙ, ГЭЙ, ГЭЙ... І КУДЫ ГЭТА ВЫ, БАЯЗЛІЎЦЫ, САБРАЛІСЯ, А?
СТАРЫ НЯЧЫСЦІК!
ВОСЬ ЯНО ЯК.
АГА, З ВАМІ СТАРЫНА НЯЧЫСЦІК, ЗНІШЧАЛЬНІК УСЯКАГА СМЕЦЦЯ. ЛІЧЫЛІ, ВЫ МОЖАЦЕ ЗБЕГЦІ АД МАІХ НОВЫХ ЦАЦАК, ЦІ НЕ ТАК?
ШТО Ж, У МЯНЕ ДЛЯ ВАС ДРЭННЫЯ НАВІНЫ, СКІДЫШЫ.
ГУЛЬНЯ СКОНЧЫЛАСЯ.
KKRACK
ПРАКЛЁН! НЯЧЫСЦІК ЗАГАДАЎ ІМ РАЗБУРЫЦЬ ГЭТАЕ МЕСЦА!


ЧУВАК, МЯНЕ ЎЖО ТРАСЕ АД ЖАДАННЯ ЎЧАПІЦЦА ЗУБАМІ Ў ГЭТУЮ ПРЫГАЖУНЮ. НЯМА НІЧОГА ЛЕПШАГА, ЧЫМ ПІЦА НА АБЕД І ВІДЫЁГУЛЬНЯ НА ДЫСЕРТ. ЖЫЦЦЁ ЦУДОЎНА!
ОГО, ТЫ ГЭТА АДЧУЎ?
АДЧУЎ ШТО?
НЯ ВЕДАЮ... БЫЦЦАМ НЕШТА АБРЫНУЛАСЯ ПРАМА ПАД НАМІ, У КАНАЛІЗАЦЫІ.
ХА! ПЭЎНА, ГЭТА РАКОЧУЦЬ ІХ СТРАЎНІКІ, БРАЦІШКА!
ГАТОВЫ СПРАЧАЦЦА, ГЭТА ЯНЫ ТАМ Б'ЮЦЦА ГАЛАВАМІ АБ СЦЕНЫ АД ГОЛАДУ.
ХЕХ. ПАЦЕШНА БУДЗЕ НА ГЭТА ПАГЛЯДЗЕЦЬ.


ВЕРХНІ ВЭСТ САЙД.
ЯКОГА Д'ЯБЛА...?
АХОВА, ГЭТА ДОКТАР БАКСТАР СТОКМАН З ПЕНТХАУСА!
У МАЮ КВАТЭРУ...
DING
...ГАХ!
ДОКТАР СТОКМАН? ВЫ ЯШЧЭ ТАМ, СЭР? У ВАС УСЁ Ў ПАРАДКУ?
АХ... ТАК... ТАК, Я Ў ПАРАДКУ. К-КАЛІ ЛАСКА, АДМ... АДМЯНІЦЕ МОЙ ВЫЗАЎ. ДЗЯКУЙ.
АХ, СТОКМАН, ВОСЬ ВЫ ДЗЕ. ПРАБАЧЦЕ ЗА ГЭТЫ ГВАЛТ...


АЛЕ ЎСЯ ГЭТАЯ АХОВА, ЯКОЙ ВЫ СЯБЕ АТАЧЫЛІ, НЕ НЕ РАЗМЯШЧАЕ ДА КАМФОРТУ НАВЕДВАЛЬНІКА. АСАБЛІВА ВАШАГА ВАЖНЕЙШАГА КЛІЕНТА.
ДЫ І АБСЛУГОЎВАННЕ ТУТ АГІДНАЕ.
ТАК, ШТО Ж Я НЕ МАГУ ЗГАДЗІЦЦА З ВАМІ НА ГЭТЫ КОНТ, ГЕНЕРАЛ.
КАЛІ Б Я АТРЫМАЎ ХОЦЬ МАЛЕЙШЫ НАМЁК НА ТОЕ, ШТО ВЫ ПРЫБУДЗІЦЕ Ў НЮ-ЁРК СЁННЯ, Я АБАВЯЗКОВА ПАДРЫХТАВАЎСЯ Б ДА ВАШАГА ПРЫЕЗДУ, І ЎМОВЫ ВАШАЙ КАМФАРТАБЕЛЬНАСЦІ БЫЛІ Б ВЫШЭЙ УСІХ МАГЧЫМЫХ СТАНДАРТАЎ.
ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, Я БЫЎ БЫ ТУТ, КАБ АДЧЫНІЦЬ ДЗЬВЕРЫ ПЕРАД ВАМІ І ВАШЫМ СУПРАВАДЖЭННЕМ – І ГЭТА ВЕЛЬМІ ДАРАГІЯ ДЗЬВЕРЫ, ТРАБА ЗАЎВАЖЫЦЬ. ДАКЛАДНА, БЫЛА ДАРАГОЙ.
А ЗАРАЗ, ЧЫМ АБАВЯЗАНЫ ТАКОМУ НЕЧАКАНАМУ ВІЗІТУ, ХМ?
ТЫ ЧАРТОЎСКІ ДОБРА ВЕДАЕШ, ЧАМУ Я ТУТ, СТОКМАН! ПРАЙШЛО БОЛЬШ ГОДА, А Я ПА-РАНЕЙШАМУ ЧАКАЮ МУТАГЕН СУПЕР-САЛДАТА, ДЗЕЛЯ СТВАРЭННЯ ЯКОГА Я ПАДПІСАЎ КАНТРАКТ З ТВАЁЙ НІКЧЭМНАЙ КАМПАНІЯЙ!


МУТАГЕН... ТАК. ШТО Ж, ЯК ВЫ ВЕДАЕЦЕ, СТВАРЭННЕ ЗАТРЫМЛІВАЕЦЦА З-ЗА КРАДЗЕЖА, ЯКІ ЗДАРЫЎСЯ Ў МІНУЛЫМ ГОДЗЕ.
ПАСЛЯ ЯКОГА Я, ПА ВАШАЙ ПРАПАНОВЕ, ПАПОЎНІЎ УСЕ НЕАБХОДНЫЯ КАМПАНЕНТЫ СЛІЗІ, КАБ ВЫ ВЯРНУЛІСЯ ДА ПРАЦЫ.
ФРАЗА «ВЯРНУЦЦА ДА ПРАЦЫ», СКАЗАНАЯ Ў КАНТЭКСЦЕ ПРАЦЫ НАД НАВУКОВЫМ ПРАЭКТАМ, НЕ ЗАЎСЁДЫ АЗНАЧАЕ, ШТО ГЭТА БУДЗЕ ХУТКА, ГЕНЕРАЛ. ГЭТА НЕ РАКЕТАБУДАВАННЕ – УСЁ ЗНАЧНА СКЛАДАНЕЙ, І ГЭТА ПАТРАБУЕ ЧАСУ.
ЧАСУ, ЯКОГА Ў МЯНЕ НЯМА, СТОКМАН! Я ГУБЛЯЮ САЛДАТ ХУТЧЭЙ, ЧЫМ У МЯНЕ АТРЫМЛІВАЕЦЦА ПАПАЎНЯЦЬ ШЭРАГІ. МНЕ НЕАБХОДНА ПАДМАЦАВАННЕ, І НЕАБХОДНА ПРАМА ЗАРАЗ!
Я БАЧУ, НАША ФОРМУЛА ЧАРАПАШАГА ЭКЗА-ГАРНІТУРА ЦУДОЎНА ПРАЦУЕ НА ВАС. НІЯКІЯ КУЛІ НЕ ПРАСКОЧУЦЬ ПРАЗ КАМЯНІСТУЮ СКУРУ ГЭТАГА ПРЫЯЦЕЛЯ, ТАК?
ПАКІНЬЦЕ СВАЁ САМАЗАДАВАЛЕННЕ, СТОКМАН. АДЗІН ПОСПЕХ З ТРОХ МАГЧЫМЫХ ДЛЯ МЯНЕ АЗНАЧАЮЦЬ НЯЎДАЧУ.
ТАКІМ ЧЫНАМ, МУТАГЕН УСЁ ЯШЧЭ Ў ПРАЦЭСЕ СТВАРЭННЯ, ТАК? ТАДЫ ШТО НАКОНТ ПСІХАТРОПНАГА КАМПАНЕНТА? ЧАМУ ЁН ДАГЭТУЛЬ НЕ Ў МЯНЕ?
ЯК РАЗ ЯГО ВЫ ЎЖО ХУТКА АТРЫМАЕЦЕ, ПАВАЖАНЫ ГЕНЕРАЛ. Я ІНІЦЫІРАВАЎ ПЛАН...


«...ЯКІ ДАЗВОЛІЦЬ СУР'ЁЗНА ВЯРНУЦЬ ЗАГУБЛЕНЫ ЧАС.»
БОЖА...
БЯРУ СВАЕ СЛОВЫ НАЗАД... НІКОЛЬКІ ГЭТА НЕ СМЕШНА.
НАЗАД, ЧОРТ БЯРЫ!
ДЭРМО! ГЭТА ЛЕА! ХУТЧЭЙ!
РАФ! МАЙК! ХУТЧЭЙ!


ХЛОПЦЫ, ХУТЧЭЙ!
БАЦЬКА І ДОНІ БЕЗ СВЯДОМАСЦІ!
ГЭТЫЯ ЧОРТАВЫ ШТУКОВІНА ПАЎСЮЛЬ!
Я НЕ МАГУ ІХ БОЛЬШ СТРЫМЛІВАЦЬ!


МАЙКІ, Я ПАКЛАПАЧУСЯ АБ ЛЕА, А ТЫ ВЫТАСКІВАЙ ДОНІ І СПЛІНТЭРА З ГЭТАЙ МЯСАРУБКІ!
ЗРАЗУМЕЎ!
РАГХ!
ОХ, БОЖА, ХТО-НЕБУДЗЬ ЗАПОМНІЎ НУМАР ТАГО АЎТОБУСА, ЯКІ МЯНЕ РАСПЛЯСКАЎ?
ДОНІ, ДЗЯКУЙ БОГУ! НАМ ТРЭБА ВЫБІРАЦЦА, БРАЦІШКА!
НЕ ХВАЛЮЙСЯ ЗА МЯНЕ, МАЙКІ. ЛЕПШ УВЯДЗІ БАЦЬКУ Ў БЯСПЕЧНАЕ МЕСЦА. І БЕРАЖЫСЯ СТАРОГА НЯЧЫСЦІКА.
ЧАМУ?
МЫ БАЧЫЛІ ЯГО АДРАЗУ ПЕРАД ТЫМ, ЯК ЗДАРЫЎСЯ ЗАВАЛ...
«...ГЭТА ЁН КІРУЕ ГЭТЫМІ ЗВАР'ЯЦЕЛЫМІ РОБАТАМІ.»



ШТО?!
Я ЗАБ'Ю ГЭТАГА ВЫБЛЯДКА!
НЕ АТРЫМАЕЦЦА, КАЛІ НАС ЗАБ'ЮЦЬ РАНЕЙ. ГЭТЫЯ ШТУКОВІНЫ ВЕЛЬМІ РАЗУМНЫЯ!
НЕ, ЛЕА, ЯНЫ ЎСЯГО ТА ЗАПРАГРАМІРАВАНЫ... СТАРЫ НЯЧЫСЦІК КАЖА ІМ, ШТО РАБІЦЬ ПРЫ ДАПАМОЗЕ ПУЛЬТА ДЫСТАНЦЫЙНАГА КІРАВАННЯ!
ШТО ПАЦВЯРДЖАЕ МОЙ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ...
«...КАТА ТРЭБА ПРЫБІЦЬ!»
ВЫДАТНА.
УСЁ БУДЗЕ Ў ПАРАДКУ, МАЙСТАР. НІХТО ВАС НЕ КРАНЕ, Я АБЯЦАЮ.
ЧАС.
Я ВАС ПРЫКРЫ...
АХ, ЧОРТ.


ВЕРХНІ ВЭСТ САЙД.
І ТЫ КАЖАШ, ГЭТЫ ТВОЙ КОТ-МУТАНТ ХУТКА ЗДАБУДЗЕ КАМПАНЕНТ, СТОКМАН?
КАЛІ ЎСЁ ПОЙДЗЕ ЗГОДНА ПЛАНУ, ГЕНЕРАЛ КРЭНГ...
...МІСТАР НЯЧЫСЦІК ПАСПЯХОВА ДАСТАНЕ ЎЗОР І ВЕРНЕ ЯГО Ў ЛАБАРАТОРЫЮ «СТОКГЕН» ДЛЯ СТВАРЭННЯ ПСІХАТРОПНАГА КАМПАНЕНТА.
МАГУ Я ПРАПАНАВАЦЬ ВАМ СКОТЧ?
Я НЕ П'Ю.
ТАДЫ, МОЖА БЫЦЬ, ВАШЫМ КАМЕННЫМ САЛДАТАМ? МАГУ НАКАЛОЦЬ ІЛЬДА, ММ?
ХЕХ.
ЗАБУДЗЬ АБ СВАЁЙ ВІПІЎКЕ... Я ПАТРАБУЮ РЭЗУЛЬТАТАЎ, СТОКМАН.
СКАЖЫ МНЕ, КАЛІ ТАБЕ ПАТРАБУЕЦЦА КАМПАНЕНТ З КРЫВІ, ЧАМУ ТЫ НЕ ЎЗЯЎ ЯГО Ў ЧОРТАВАГА КАТА? НАВОШТА ТРЭБА УЛАДКОЎВАЦЬ ПАЛЯВАННЕ НА НЕЙКАГА ЗБЕГЛАГА ПАЦУКА, КАЛІ Ў ЦЯБЕ ЎЖО ЁСЦЬ У РАКАХ ІНШЫ МУТАНТ?
ДЫК, ШТО Ж... КАЛІ Б УСЁ БЫЛО ТАК ПРОСТА.
МЫ ДУМАЛІ АБ ТЫМ, КАБ ВЫКАРЫСТАЦЬ КРОЎ МІСТАРА НЯЧЫСЦІКА... ТАЙНА ЎЗЯЛІ ЎЗОРЫ, НЕ СУМНЯВАЙЦЕСЯ... АЛЕ МАЕ СПЕЦЫЯЛІСТЫ СУТЫК-НУЛІСЯ З ВЯЛІКІМІ ПРАБЛЕМАМІ, ЯКІЯ НЕМАГЧЫМА АБЫЙСЦІ.
ВЫПАДКОВАЕ ПАГЛЫНЕННЕ КАМПАНЕНТА З АСФАЛЬТА БРУДКАГА ЗАВУЛКА НЕ ІДЗЕ НІ Ў ЯКОЕ ПАРАЎНАННЕ СА СТАРАННА КАНТРА-ЛІРУЕМЫМІ ІН'ЕК-ЦЫЯМІ ПАЦУКА.
ЯК І НЕЛЬГА ПАРАЎНОЎВАЦЬ МУЦІРАВАЎШЫХ ЧАРАПАХ... ХОЦЬ ІХ КРОЎ МОЖА ДАЦЬ НАМ МАГЧЫМАСЦЬ НОВЫХ УНІКАЛЬНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ.


АЛЕ, ШТО ТЫЧЫЦЦА САМОГА КАМПАНЕНТА, ПСІХІЧНАЯ СТАБІЛЬНАСЦЬ УСІХ ТЭСТАВЫХ АБ'ЕКТАЎ БЫЛО АДНОЙ З ВАШЫХ ПАПЯРЭДНІХ ЎМОЎ, ГЕНЕРАЛ, І МІСТАР НЯЧЫСЦІК ПРАЯВІЎ, СКАЖАМ ТАК, СВАЮ СЛАБАХАРАКТАРНАСЦЬ. ЦЯЖКА ЎЯВІЦЬ, КАБ ВЫ ПАЖАДАЛІ ТАКІХ ЯКАСЦЯЎ АДНАМУ З ВАШЫХ КАМЕННЫХ САЛДАТАЎ.
НАКОЛЬКІ МНЕ ВЯДОМА, ТОЛЬКІ ПАЦУК АТРЫМАЎ ЧЫСТУЮ ФОРМУ ПСІХАТРОПНАГА РЭЧЫВА. АДСЮЛЬ І НАШАЕ ЖАДАННЕ НАЙСЦІ І ВЯРНУЦЬ ЯГО.
ШТО ЗНАЧЫЦЬ, «НАКОЛЬКІ МНЕ ВЯДОМА»?
ВАШ СУПЕРНІК – ГЭТЫ ТАЯМНІЧЫ НІНЗЯ – ВІДАВОЧНА, ДАБІЎСЯ ПЭЎНЫХ ПОСПЕХАЎ З УЗОРАМІ, ВЫКРАДЗЕНЫМІ З НАШАЙ ЛАБАРАТОРЫІ Ў МІНУЛЫМ ГОДЗЕ.
«ДА МЯНЕ ДАЙШЛІ ЧУТКІ, ШТО БЫЛО ЗАЎВАЖАНА* ЯШЧЭ АДНА ЖЫВЁЛІНА-МУТАНТ. ГЭТАЕ СТВАРЭННЕ, ВІДАВОЧНА, У ПОЎНАЙ СТУПЕНІ РАЗУМОВАЯ...»
*ГЛ. МІКРА-СЕРЫЮ ПРА РАФАЭЛЯ.
...ХАЦЯ БЕЗ ПАЦВЯРДЖЭННЯ ГЭТА ЯШЧЭ ЧУТКІ, НЕ ФАКТЫ.
ФАКТЫ? ВОСЬ ЦЯБЕ ФАКТЫ, ЧАПУРЫСТЫ ФІГЛЯР.


ПА-ПЕРШАЕ: ГЭТЫ ІНДЫВІД, ЯКОГА ТЫ НАЗВАЎ МАІМ СУПЕРНІКАМ – ГЭТЫ НІНЗЯ – ГЭТА ЎСЯГО ТА ДРОДНАЯ ПЕРАШКОДА – НАСЯКОМАЕ, ЯКОЕ БУДЗЕ РАЗПЛЮШЧАНА, КАЛІ ТРЭБА.
МАЯ КРЫНІЦА КАЖА, ШТО ЯГО ЦІКАВАСЦЬ У ТЭХНАЛОГІІ СТВАРЭННЯ МУТАНТАЎ, НАД ЯКОЙ ВЫ ПРАЦУЕЦЕ, АБМЕЖАВАНЫ ЯГО ЎЛАСНАЙ ВАЙНОЙ, ЯКАЯ, ЯК І ЎСЕ ІНШЫЯ НА ГЭТЫМ СМЯРДЗЮЧЫМ ШАРЫКУ, АПЫНЕЦЦА БЕССЭНСОЎНАЙ, ЯК ТОЛЬКІ Я ЗАВЯРШУ СВАЮ МІСІЮ.
ВОСЬ ШТО МАЯ КРЫНІЦА НЕ ПАВЕДАМІЛА МНЕ, ДЫК ГЭТА ЯКІМ ЧЫНАМ ЁН, ЧОРТ БЯРЫ, ДАВЕДАЎСЯ АБ ТЭХНАЛОГІІ. АЛЕ, ЯК Я КАЗАЎ, ВЕЛЬМІ ХУТКА ГЭТА НЕ БУДЗЕ МЕЦЬ ЗНАЧЭННЯ.
ПА-ДРУГОЕ: НЯМА НІЧОГА ВАЖНЕЙ, ЯК ПАСПЯХОВАЕ ЗАВЯРШЭННЕ МАЁЙ МІСІІ.
НАЖАЛЬ, АДЗІНЫЯ, ХТО ВАЛОДАЕ ДАСТАТКОВЫМІ ТЭХНІЧНЫМІ ВЕДАМІ, НЕ ТОЛЬКІ АДМОВІЛІСЯ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ...
«ЯНЫ АКАЗАЛІ КУДЫ БОЛЬШЫ СУПРАЦІЎ, ЧЫМ Я ЧАКАЎ.»
ШТО ПРЫБЛІЖАЕ НАС ДА ТРЭЦЯГА ФАКТА: ТВАЁ ЎЛАСНАЕ ЖЫЦЦЁ ПАД ПЫТАННЕМ.
МНЕ ПАТРЭБНЫ ПАСЛУХМЯНЫЯ, РАЗУМОВЫЯ МУТАНТЫ-СУПЕРСАЛДАТЫ, КАЛІ ТЫ МНЕ ДАПАМОЖАШ, Я ЗРАБЛЮ ЦЯБЕ ВЕЛЬМІ БАГАТЫМ І МАГУТНЫМ ЧАЛАВЕКАМ. ПАДВЯДЗЕШ?..
ТЫ ПАМРЭШ.
ТВОЙ ЧАС КАНЧАЕЦЦА, СТОКМАН, ДЫК ВОСЬ, ШТО Я СКАЖУ ТАБЕ...


«...ЛЕПШ ГЭТАМУ КЛЯТАМУ КАТУ ПРЫНЕСЦІ ТОЕ, ЗА ЧЫМ ТЫ ЯГО АДПРАВІЎ.»
ЧАС ЗМАТВАЦЦА АДСУЛЬ.
АЛЕ СПАЧАТКУ ТРОШКІ ДЫМУ.
FSSSSSSHHH
І ЎСЁ, ШТО ЗАСТАЕЦЦА, ГЭТА НАЦІСНУЦЬ АДНУ МАЛЕНЬКУЮ КНОПКУ АЎТАПІЛОТА...
CLIK
...І ЎЦЯГНУЦЬ ВЯЛІКАГА, БРЫДКАГА ПАЦУКА.
ПАКУЛЬ ЗЯЛЁНЫЯ ВЫРАДКІ...


«...РАЗВІТАЙЦЕСЯ З ТАТАЧКАЙ.»
DUNGAN DOUGHNUT
ДЫК ТЫ І ТВОЙ БАЦЬКА НЕ ВЕЛЬМІ ЛАДЗІЦЕ, ТАК?
УГУ...
НІКОЛІ, НЕ ЛАДЗІЛІ, АЛЕ З ТЫХ ЧАСОЎ, КАЛІ ПАМЕРЛА МАЯ МАЦІ, МЫ СТАЛІ, ЭЭ... УВЕСЬ ЧАС ІГНАРАВАЦЬ АДЗІН АДНАГО.
ШКАДУЮ АБ ТВАЁЙ МАЦІ. МАЕ БАЦЬКІ АБОДВА ЖЫВЫ, АЛЕ ТАТА ПЕРАНЁС ЦЯЖКІ ПРЫСТУП НЕКЛЬКІ ГАДОЎ ТАМУ.
Я ЛЕДЗЬ НЕ КІНУЛА ШКОЛУ, КАБ ДАПАМАГАЦЬ МАЦІ НАГЛЯДАЦЬ ЗА ІМ, АЛЕ ЯНЫ НЕ ДАЗВОЛІЛІ.
СКАЗАЛІ, ШТО Я ТАК СТАРАЛАСЯ ВУЧЫЦЦА, КАБ ДАБІЦЦА ВЫПЛАТЫ СТЫПЕНДЫІ, ТАМУ ЗАРАЗ НЕЛЬГА РЫЗЫКАВАЦЬ УСЁ КІДАЦЬ З-ЗА АДНОЙ ТОЛЬКІ ХВАРОБЫ, МАЙГО БАЦЬКІ.
ШТО ПРЫМУШАЕ МЯНЕ ЗАДАЦЦА ПЫТАННЕМ: ЧАМУ НАОГУЛ ТАКАЯ РАЗУМНАЯ ДЗЯЎЧЫНА, ЯК ТЫ, ХОЧА НАВУЧЫННА ДРАЦЦА?
РАЗУМЕЮ, УСІМ ПАТРЭБНА САМААБАРОНА, АЛЕ ДЛЯ ГЭТАГА ІСНУЕ ГАЗАВЫ БАЛОНЧЫК.
З КІМ ТЫ ЗБІРАЕШСЯ БІЦЦА З ШАХМАТНЫМ КЛУБАМ.
ШТО Ж, САМААБАРОНА, КАНЕШНЕ, ПРЫМАЛАСЯ НА ЎВАГУ... АЛЕ ЎСЁ ЦЯЖЭЙ. УСЁ...
...НУ, УСЁ ГЭТА ПЭЎНАЕ ВАР'Я-ЦТВА, ЛЕПШ ТАБЕ НЕ ВЕДАЦЬ, ПАВЕР МНЕ.
СЛУХАЙ, АНГЛІЙ-СКАЯ ЛІТАРАТУРА ЗАБІВАЕ МЯНЕ, АЛЕ З ВАР'ЯЦТВАМ Я ЗМАГУ ЗЛАДЗІЦЬ, ЭЙПРЫЛ.
ВЫКЛАДВАЙ, У ЧЫМ ЖА СПРАВА?


НУ ДОБРА, АЛЕ ТЫ БУДЗЕШ СМЯЯЦЦА.
Я ПРАХОДЗІЛА ІНТЭРНАТУРУ Ў НАВУКОВАЙ ЛАБАРАТОРЫІ КАЛЯ ГОДА РАНЕЙ, ГЭТА БЫЛО НЕАБХОДНАЙ ЧАСТКАЙ ДЛЯ АТРЫМАННЯ КВАЛІФІКАЦЫІ БІЯТЭХНОЛАГА. АДНОЙЧЫ ЎВЕЧАРЫ Я ЗАСТАЛАСЯ Ў ЛАБАРАТОРЫІ, КАБ ПАЗАЙМАЦЦА, КАЛІ Ў ЯЕ ЎВАРВАЛІСЯ.
АЛЕ... УВОГУЛЕ, ГЭТА БЫЛО НЕ ЗУСІМ ЗВЫЧАЙНАЕ РАБАВАННЕ.
У СЭНСЕ? У ІХ БЫЛІ ГАРМАТЫ І ЎСЁ ТАКОЕ?
НЕ, НЕ ГАРМАТЫ. У ІХ БЫЛІ... БЫЛІ МЯЧЫ.
МЯЧЫ?
ТАК. І ЯНЫ БЫЛІ АПРАНУТЫ, ЯК, ЭЭЭ... НІНЗЯ.
НІНЗЯ?
ВЕДАЮ... ПОЎНАЕ ГЛУПСТВА, ТАК?
АЛЕ ГЭТА ПРАЎДА, І АДЗІН З ІХ АМАЛЬ НЕ ЗАБІЎ МЯНЕ. Я... Я АМАЛЬ ВЫРАТАВАЛАСЯ, І З ТЫХ ЧАСОЎ, НУ... Я ПРОСТА ВЕЛЬМІ СПУЖАЛАСЯ, РАЗУМЕЕШ?
ЛЮБЫ ЦЕНЬ, ЛЮБЫ НЕЧАКАНЫ ГУК ПРЫМУШАЕ МЯНЕ ЎЗДРЫГВАЦЬ, І Я ВЫРАШЫЛА, ШТО КАЛІ Я НАВУЧУСЯ БІЦЦА... БАРАНІЦЬ СЯБЕ... ГЭТА МЯНЕ СУПАКОІЦЬ.
НЕ ГЛЯДЗІ ТАК НА МЯНЕ, КЕЙСІ. Я ВЕДАЛА, ШТО ТЫ МНЕ НЕ ПАВЕРЫШ.
НЕ, Я ВЕРУ, Я ПРОСТА... ЯК ТЫ ВЫРАТАВАЛАСЯ?
ГЭТА САМАЯ ДЗІЎНАЯ ЧАСТКА. У ЛАБАРАТОРЫІ БЫЎ ПАЦУК – ВУМНЫ МАЛЕНЬКІ ЗВЯРОК, НАД ЯКІМ ЯНЫ ПРАВОДЗІЛІ НЕЙКІЯ ДЗІЎНЫЯ ТЭСТЫ. ЁН ЗАЎСЁДЫ І ПАЎСЮЛЬ ВОЛЬНА ГУЛЯЎ.
ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО, КАЛІ НАКІНУЛІСЯ НІНЗЯ, НЕЧАКАНА ЎКЛЮЧЫЛАСЯ ПАЖАРНАЯ СІГНАЛІЗАЦЫЯ, ЯКАЯ СПУЖНУЛА ІХ. І Я КЛЯНУСЯ, ШТО СІГНАЛІЗАЦЫЮ ЎКЛЮЧЫЎ ПАЦУК.
ВОСЬ ТАКАЯ ДЗІЎНАЯ ГІСТОРЫЯ... Я БЫЛА ВЫРАТАВАНА АД НІНЗЯ-ЗАБОЙЦ ЛАБАРАТОРНЫМ ПАЦУКОМ СПЛІНТЭРАМ.
ТЫ СКАЗАЛА... СПЛІНТЭР?


МАЙСТАР СПЛІНТЭР! ДЗЕ Ж ВЫ?!
ЧУВАКІ, Я НЕ МАГУ ЗНАЙСЦІ БАЦЬКУ!
ШТО?!
СЭНСЭЙ! НА СЯКУНДУ АДВЯРНУЎСЯ, І ЯГО ЎЖО НЯМА!
ПРАЦЯГВАЙ ШУКАЦЬ, МАЙКІ!
ДЫ Я ШУКАЮ, І НЕ МАГУ ЗНАЙСЦІ, ЛЕА! КАЖУ ТАБЕ, ЯГО ТУТ НЯМА!


Я НІДЗЕ НЕ БАЧУ І НЯЧЫС-ЦІКА! ЛІЧЫЦЕ, ЁН ЗАБРАЎ БАЦЬКУ?!
МЫ ПАВІННЫ ПАЙСЦІ ЗА ІМІ!
ГРАХ!
АЛЕ НАС ПАЎСЮЛЬ ПЕРАСЛЕДУЮЦЬ ГЭТЫЯ ШТУКІ!
СПЫНІЦЕСЯ! МЫ МОЖАМ СКАРЫСТАЦЦА АДСУТНАСЦЮ НЯЧЫСЦІКА!
ЯК?!
МНЕ ЗАДАЕЦЦА, ГЭТЫЯ ШТУКІ ПРАЦУЮЦЬ ПА НЕЙКАМУ ПРЫН-ЦЫПУ АЗНАЧЭННЯ КОЛЬКАСЦІ АБ'ЕКТАЎ!


ПАЎТАРЫ ЯШЧЭ РАЗОК!
РАДАР... ЯНЫ НАПАДАЮЦЬ НА НАС, АРЫЕНТУЮЧЫСЯ ПА НАШЫХ ВОБРАЗАХ!
ПАКОЛЬКІ НЯЧЫСЦІКА ТУТ НЯМА, ЗАРАЗ ЯНЫ ПАВІННЫ ПРАЦАВАЦЬ НА АЎТАПІЛОЦЕ.
!?
ЛІЧУ, Я ВЕДАЮ, ЯК СПЫНІЦЬ ІХ БЕЗПАРАДКАВАЕ НАПАДЗЕННЕ!
ХУТЧЭЙ, ХЛОПЦЫ, УСТАВАЙЦЕ ЗА МНОЮ Ў АДЗІН ЛАНЦУГ. І НЕ РУХАЙЦЕСЯ, КАБ ЯНЫ РЭАГІРАВАЛІ ТОЛЬКІ НА МЯНЕ.
ШТО ТЫ ТАКОЕ НЯСЕШ, ДОНІ?
ПРОСТА РАБІ ГЭТА, ХУТЧЭЙ!
ЛЕПШ БЫ ГЭТА СПРАЦАВАЛА.
ТАК... ПА МАЙМУ СІГНАЛУ.


Я НЕ РАЗУМЕЮ, ШТО ТЫ ЗАДУМАЎ, БРАТ, АЛЕ ЧАМУСЬЦІ ГЭТА МНЕ НАГАДВАЕ ЧАРГУ Ў БУФЕЦЕ...
...І, ЗДАЕЦЦА, НА АБЕД БУДЗЕМ МЫ?
6
3
8
32
9
45
10
28
1
9
79


ЭЙПРЫЛ, СПЫНІСЯ ТУТ...
...МЫ НА МЕСЦЫ.
ТУТ? БОЛЬШАСЦЬ ГЭТЫХ БУДЫНКАЎ ВЫГЛЯДАЕ ЗАКІНУТЫМІ, КЕЙСІ, І, ЭЭ... ДАВОЛІ НЕБЯСПЕЧНЫМІ.
НАМ НЕ ПАТРЭБНЫ ГЭТЫЯ БУДЫНКІ... КАЛІ Б Я АДРАЗУ СКАЗАЎ ТАБЕ, КУДЫ МЫ ІДЗЕМ, ТЫ Б НЕ ПАГАДЗІЛАСЯ.
ТАК, ДОБРА, ХОПІЦЬ ЗАГАДАК. КУДЫ МЫ НАКІРОЎВАЕМСЯ?
ПА-ПАЎ!
ТЫ ЖАРТУЕШ, ТАК?
АГА.
І КАЛІ ТЫ ЛІЧЫШ, ШТО РАБАЎНІКІ-НІНЗЯ БЫЛІ ВАР'Я-ЦТВАМ, ШТО Ж...


«...ЛІЧЫ, ТЫ ЯШЧЭ НІЧОГА НЕ БАЧЫЛА».
ДОБРА... ЦЯПЕР ЯНЫ БАЧАЦЬ ТОЛЬКІ МЯНЕ, ХЛОПЦЫ. БУДЗЬЦЕ ГАТОВЫЯ, І ТРЫМАЙЦЕСЯ ЗЗАДУ АД МЯНЕ.
ЯШЧЭ АДНУ СЯКУНДУ...
ЗАРАЗ!
АТАКУЕМ З УСІХ БАКОЎ!
І НАНОСІМ ІМ СТРАТЫ!


ГЭТА АПОШНІ. БЕСТАЛКОВЫЯ БЛЯШАНКІ!
ВЫДАТНЫ ПЛАН, ДОНІ... ЯНЫ АБСАЛЮТНА НЕ ЧАКАЛІ, ШТО МЫ ВОЗЬМЕМ ІХ У КОЛЬЦА ПЭЎНЫМ ЧЫНАМ.
ВЫ Ў ПАРАДКУ, ХЛОПЦЫ? НІХТО СУР'ЁЗНА НЕ ПАРАНЕНЫ?
НЕ ЎЛІЧВАЮЧЫ ПСІХІЧНАЙ ТРАЎМЫ АД ГЭТЫХ РОБАТАЎ, Я Ў ПАРАДКУ.
ГЛЯДЗІЦЕ.
ПУЛЬТ КІРАВАННЯ НЯЧЫСЦІКА... НАПЭЎНА, ЁН АБРАНІЎ ЯГО, І НА ІМ ВЫСТАЎЛЕН АЎТАПІЛОТ, ЯК Я І ЛІЧЫЎ. ГЭТЫ ГАД САПРАЎДЫ СБЕГ.
І НІЯКІХ ПРЫЗНАКАЎ СЭНСЭЯ. ВІДАЦЬ, НЯЧЫСЦІК ЗАБРАЎ ЯГО.
АБО ГОРШ.
ЧОРТ БЯРЫ, МЫ ПАВІННЫ ПАЙСЦІ ЗА ІМ, ЗАРАЗ ЖА!
РАФ ПРАЎ... НЕЛЬГА ТРАЦІЦЬ НІ ХВІЛІНЫ. МЫ ЖА НЯ ВЕДАЕМ, ШТО НЯЧЫСЦІК ЗБІРАЕЦЦА З ІМ ЗРАБІЦЬ.
НІЧОГА ДОБРАГА, БУДЗЬ УПЭЎНЕНЫ.


ПАДЗЕЛІМСЯ... ТАК МЫ ЗМОЖАМ АБСЛЕДАВАЦЬ БОЛЬШУЮ ТЭРЫТОРЫЮ. КАЛІ ЗА ПАРУ ГАДЗІН ВЫ НІЧОГА НЕ ЗНОЙДЗЕЦЕ, ВЯРТАЙЦЕСЯ СЮДЫ, АЛЕ БУДЗЬЦЕ АСЦЯРОЖНЫ...
НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ, ШТО ТЫ МЯНЕ НА ГЭТА ЎГАВАРЫЎ!
ГЭТА ТАК ГІДКА!
МЫ ЎЖО АМАЛЬ НА М... ЧАКАЙ ХВІЛІНКУ. НЕШТА НЕ ТАК.
ШТО ЯШЧЭ?
АГА, ЗУСІМ НЕ ТАК. КАЛІ ТЫ ЯШЧЭ НЕ ЗАЎВАЖЫЎ, ГЭТА КАНАЛІЗАЦЫЯ, КЕЙСІ...
КЕЙСІ!
...А ГЭТА ЧАТЫРЫ ГІГАНСКІХ ЧАЛАВЕКА-ЧАРАПАХІ.
ГЭТА... УЖО... ЗАНАД-ТАААА...
ДЭРМО!


ПРАБАЧ, КЕЙСІ, НА РАЗМОВЫ НЯМА ЧАСУ. НАПЕРАД, ХЛОПЦЫ.
ЯНА Ў ПАРАДКУ?
ТАК... ЛІЧУ, ЯНА ПРОСТА НЕ ПЕРАНЕСЛА СУСТРЭЧЫ З ВАМІ. НАПЭЎНА, ТРЭБА БЫЛО ПАПЯРЭДЗІЦЬ.
МНЕ ЗДАЕЦЦА, ЯНА ВЕДАЛА ВАС ЧАЦВЁРЫХ І ВАШАГА БАЦЬКУ ЯШЧЭ Ў ЛАБАРАТОРЫІ, ДА ТАГО, ЯК ВЫ... НУ, ВЫРАСЛІ.
ПРЫВЕЎ ЯЕ, КАБ ПАЗНАЁМІЦЬ З ВАМІ, АЛЕ... НЕ Ў ЧАС, ТАК?
ГЭТА МЯККА КАЖУЧЫ, БРАЦІШКА.
МЫ ВЯРНЕМСЯ. А ЯНА-ТА НІЧОГА.
АГА... ДЗЯКУЙ.
ВОСЬ ТОЛЬКІ ЛЕПШ БЫ Я НЕ ВУЧЫЎ ЯЕ БІЦЦА, ТАМУ ШТО, ЧУЮ, КАЛІ ЯНА ПРАСНЕЦЦА...

